*ВЕТРЫК, ВЕЙ, ГАНІ ЖВАВЕЙ*
*ЧОВЕН МОЙ У КУРЗЕМЕ!*

J. RAINIS

# PŪT, VĒJIŅI!

tautas dziesma
piecos cēlienos

IZDEVIS A. GULBIS RĪGĀ 1930

Ветрык, вей, гані жвавей
Човен мой у Курземе...

З журбой вясёлай сцішаныя гукі,
Мілейшых мне нідзе не ўчуць да скону,
Яны спакою не даюць ніколі.
Дзе ж гэты ветрык, што ўздыхне магутна
І ў родны край пагоніць нашы чоўны?
Ах, у вялізным моры ён малы.
Чакаем дужага, што панясе нас.
Ды ён жаданым так і застаецца,
Цацанкай-абяцанкай курземчанкі.
Кароцім песняй доўгую разлуку,
Стань чоўнам, песня, станьце ветрам, гукі:
Усе браты па смутку, разам сядзем
І адплывём у мару — ў край бацькоўскі.

Вы клікалі мяне — і вось я тут,
Прачнуўся ветрык і пагнаў мой човен
Духоўным морам, Даўгавы паветрам;
Я ўсцешаны, што ўспомнілі мяне вы,—
Што запрасілі, як свайго, мяне
На свята вашай радасці вялікай.
Вы ўспомнілі, што маладымі днямі
Упоплеч з вамі з ворагам змагаўся,
Тугу адпрэчыўшы, блукаў чужынай.
Я ўсцешаны, ды ў сэрца жаль закраўся:
Вы гэткія ж выгнаннікі, як я,
Чужыя на чужой зямлі. Не радасць,
А скруха ўдалеч гоніць лёгкі човен.
Не так і боль, як сорам сэрца сушыць:
Хоць захлынецца сэрца, а не скажаш.
Каму адважышся свой сум даверыць?
Пачнём пра тое, чым жыве душа,—

Пра Дáўгаву, пра край бацькоў далёкі,
Пра даўніну сівую, пра сіротку,
Аб продках, што ў зямлю пайшлі заўчасна.
Іх душы — наша спадчына святая,
Іх душы ў бессмяротных гуках песень
Звіняць мілей, чым салаўіны лес.
Бацькоўскі дух у нас ад нараджэння,
Ён з намі ў нашым клопаце надзённым,
Ён з намі новае жыццё рыхтуе.

. . . . . . . . . . . . . . .

Я вам прынёс напеў зямлі бацькоўскай:
«Ветрык, вей, гані жвавей...»,
Малюнкі і ўспаміны дзён забытых.
Вазьміце ж іх, як зоркі на світанні,—
Яны туман мінуўшчыны развідняць:
Вы ўбачыце сіротку-чарацінку,
Яна ў сабе нясе людскую шчодрасць,
Цнатлівую красу і сарамлівасць,
Што чалавецтва лічыць кветкай шчасця.
За гэта шчасце бедная сіротка
Аддаць сваю душу была гатова.
Ідзе забраць сіротку сын народа —
Ідзе з-за Даўгавы, ад пены белай,
Як веснік сонца — золак, ад якога
Заранка трапяткая блякне, гасне.
Так сіла юная зямлі рунее,
Ідзе, каб свет па-свойму перайначыць,
На хвілю не задумаўшыся, нішчыць
Сваю красу цнатлівую і шчасце.
Ды сын народа згаслую ўздымае,
Нясе да іншых, вольных даляглядаў,
Сам набывае зноў красу і сілу,
Для новых дзён народа — чалавечнасць.

## АСОБЫ

Улдыс
Барба
Зана
Анда
Мацi
Дыдзiс
Орта
Цыепа
Гатыньш
Парабкi
Парабчанкi
Суседкi



Мукамольня. Направа дзверы. Насупраць гледачоў дзверы, забітыя звонку. Направа ў сцяне — акенца з засаўкай. Паабапал жаронцы. У левым кутку на падлозе прасеяная мука. У мукамольні прыцемак. У сцяну ўторкнута лучынка — цепліцца. Шарэе. На двары скуголіць вецер.
Калі потым разнасцежваюць забітыя дзверы, далёка відаць Даўгава.
Налева круціць жаронцы З а н а, дзяўчына год дваццаці, і Б а р б а, год семнаццаці. Справа меле А н д а, год васемнаццаці, і парабчанка О р т а, год пяцідзесяці. У левым кутку сее муку бабылка Ц ы е п а, год трыццаці.

З а н а *(спявае)*

Мыла-мыла, паласкала —
Даўгавінька памагала.
Шчупачок падплыў зялёны,
Мне сарваў вянок-карону.

Іншыя дзяўчаты ціха падцягваюць.

Орта *(смеючыся)*

Што за раннія такія
Пеўні сёння паднялі вас?
Сон дасніць хацела я —
Зана ўжо за меліва.

Цыепа *(ліслівым голасам)*

От спявае весела,
Як сінічка весняя.

Орта

Зана пчолкаю гудзе.
Вецер злосны ломіцца,
Ну а ёй не боязна.

Зана

Як і мы, шчырэе вецер,
Гоніць човен, спорыць дождж.

Зноў пяе.

Мыла-мыла, паласкала —
Даўгавінька памагала...

Цыепа

Па сярэбраных масніцах
Песенька твая бяжыць!

Зана

Што, сястрычкі, дзіўнага?
Жорны мне пяюць званчэй.
Цяжка круцяцца. Лягчэй
Есці пышкі мяккія.

О р т а

Жорны б рады выспацца
На муцэ на беленькай.
Ці не хочаш ты паспаць
На руцэ у бел-малойца?

З а н а

Кпі, сястрыца, я спяваю.

А н д а

Што ж, спявай, пакуль жаніх
Вернага каня сядлае.

Ц ы е п а

Бач, гарацць у Заны вочы,
Быццам кошка рыбкі хоча.

З а н а

Ха, ха — мелеце лухту,
На пірог муку малолі б.

О р т а

Золата я ў жорны сыплю,
Сею серабро праз сіта,
А багацце ўсё маё —
Пасярэбраныя косы.

Б а р б а

Ты хоць раніцай не лайся.

О р т а

Ні спіны, ні рук не чую,
Косы ўзмоклі, хоць выкручвай,
Зане ж і ў жакетцы свежа.

А н д а

Жорнам хоць загаласі:
Трапіў млён у рукі Орты!

О р т а *(да Анды)*

Змоўкні лепш. І кацяня
Больш старанна хвост свой круціць.

Анда змоўкла; маўчаць іншыя дзяўчаты; мацней завывае вецер.



З правага боку ўваходзіць м а ц і з мяшком зерня.

М а ц і

Бог у помач, мукамолкі,
Раніцай мякчэй мука!

Жартуючы, ставіць мяшок.

А ці хопіць вам на песні
Жыта, ядранай пшаніцы?

З а н а

Дзякуй, мама, больш не трэба
Ані жыта, ані песень,
Ні для нашых рук падмены.

Ц ы е п а

Аратаі зацягаліся,
Ходзячы услед за плугам,
Мукамолкі ж не стаміліся,
Жорны круцячы цяжкія.

О р т а *(да Цыепы, кпліва)*

Як магла ты замарыцца:

У цябе ж мякіну жорны
Мелюць языком вяртлявым.

Маці

Што намеле лапатуха?
Верабей хвастом закрые.
За тваю работу, Орта,
Заплачу я шчодрай платай.
Пытляванку перасееш —
Будзе пірагоў пшанічных!

Орта

Дарагіх гасцей чакаеш?

Анда *(радасна ўскрыквае і абдымае маці)*

Ой, сваты, сваты, нарэшце!
Мамуленька залатая!

Маці *(адхінаецца)*

Стой! Твой будзе час, скакуха!
Зананька, бывай!

Абдымае і цалуе Зану.

Пайду!
Да стала пакліча Гатыньш.

Выходзіць.



Тыя ж без маці.

Анда *(абдымае Зану)*

Зананька, якое шчасце!
Вось і ты нявестай стала!

Хто ж мяне сагрэе ласкай?
Анікога я не маю.

Зана *(са смехам)*

Будзе лішні — уступлю.

Орта *(да Заны)*

Бач, нікому не казала,
Што сабе хлапца прыдбала!

Цыена

Кажуць тым, хто не раскажа.

Орта *(перабіваючы яе)*

Хто язык трымаць не ўмее?

Анда

Матчына дачушка верыць
І сястрыцам, і сяброўкам,—
І не трэба ёй парады.

Орта *(да Заны)*

Дзе ж спаткала, адшукала?

Зана *(смеючыся)*

На леташнім кірмашы.
На беразе Даўгавы.

Напявае.

Шчупачок падплыў зялёны,
Мне сарваў вянок-карону.

Анда

От жа радасць, от жа свята!
Колькі сёння будзе смеху!

Скуголіць вецер, чуюцца ціхія гукі жалейкі.

**О р т а**

Хто сумуе? Хто пяе?
Ці шпака занесла ветрам?

**Б а р б а**

Ах, там Гатыньш на жалейцы.
Зноўку занямог нябога,
Вецер сэрца развярэдзіў —
Грае, боль суцешыць хоча.

**А н д а**

Выбраў жа для піску дзень,
Можна так сватоў адпудзіць!
Мала, што скавыча вецер?

**З а н а** *(спявае)*

Брацітка, вазьмі свой човен,
Дагані вяночак мой.

Вецер дужэе.

**Ц ы е п а**

От дык вецер! Дзверы рве...

**З а н а**

Разарваў ён маю песню!

**О р т а** *(смеючыся)*

Нарачоны звяжа зноў.

Вецер разносіць муку па мукамольні.

**Ц ы е п а**

Завіруха цёплая!

Анда *(смеючыся)*

Цыепа, ручнік хапай,
Пірагі сватоў ратуй!

Зана

Маці ветру, замаўчы,
Сядзь на дрэва ссохлае!

Орта

Не, зусім не маці ветру —
Едзе Даўгавай пярун.
Ветраў сын — вісляр-вястун,
А шукае шчасце ён.

Зана

Добра нам. Бог, заслані
Тых, што едуць Даўгавай!

Анда *(пляскае ў далоні)*

Шануй, божа, гані, вецер,
Жаніхоў, як жыта ў жорнах.

Чуваць, як б'е пярун. Мацнее вецер. Трашчыць зламанае дрэва. Дзяўчаты — у крык, перастаюць малоць.
Праз шчыліны зачыненых дзвярэй прабіваецца святло.

Зана *(падбягае да сцяны, адсоўвае аконца, глядзіць на Даўгаву)*

Божухна, збялелі хвалі,
Кідаецца Даўгавінька!

Барба *(ускрыквае, падбягае да зачыненых дзвярэй, прыпадае да шчыліны)*

Бедная мая ялінка —
Вецер зламаў верхавінку!
Болей не шумець зялёнай.

Цыепа

Весляра адна шкадуе,
А яліначку другая;
Трэцяя — адно смяецца...

Анда *(перабіваючы)*

Маці шчасця шкада трэцюю...

Орта

Тры івалгі клічуць дождж,
Тры дзяўчыны — жаніхоў.
Тая — «прыйшоў», тая — «будзе»!
Сэрца трэцяй — таямніца.
Першай песняй тую ўславім,
Чыё сэрца — таямніца.

Барба

Што ты, Ортанька, смяешся?
Чым жа я цябе ўгнявіла?

Орта

Без вяршалінкі ялінка.
Хто схавае палахліўку,
Як сваты-чмуты наедуць?

Барба

Да мяне — шлях праз балота,
А для іншых — бальшаком.

Орта

Помніш песню: сірацінка,
Доўга ты вянок не зносіш.

Зана

Ортанька, пустое кажаш!
Барбінька баіцца хлопцаў,
Ходзіць вочы апусціўшы.

Цыепа

Хай дыхнуць на палахліўку —
Вугальчыкам разгарыцца.

Анда

І пад прысакам не стыне
Сэрца жар у палахліўкі.

Барба

Анданька, мая сястрыца,
Мне не ў галаве замужжа.

Орта

Прыйдзе — будзе ў галаве,
Сэрца спаліць суджаны.

Барба

Ой, нашто вы! Лепш з абрыву
Скокну ў Даўгаву крутую,
Стану плотачкам сястрычкай.

Орта

Баязліўка Барбінька!
Смерць не кліч — сама прыходзіць.
Нашча муж цябе не з'есць.

Барба

Хто ў зямлю загнаў матулю?

Орта

Хіба кожны суджаны
У карчме начуе, днюе?

Цыепа

Клопат твой малы пра Барбу,—
Гатынем засватана.

**Орта**

Кніш ты з беднага калекі?
Сіраце шкада сіротку.

**Анда**

Чуеце! Кульгае Гатыньш:
Татар-гік, татар-гік!

Імітуе кульгавага, дзяўчаты смяюцца. Маленькая паўза. За дзвярыма чуюцца крокі і нерашучае таптанне.

**Цыепа**

Дзе ж казак з адважным сэрцам?

**Анда**

За дзвярмі каня прывязвае.

Дзяўчаты смяюцца.

**Орта** *(кліча сярдзіта)*

Ну, хутчэй скачы да нас!

**Голас** *(за дзвярыма)*

Клічуць да стала!

Дзяўчаты зноў смяюцца.

**Барба**

Засаромеўся. *(Кліча.)* Заходзь!



Уваходзіць **Гатыньш**, юнак год васемнаццаці, няўклюдны, кульгавы, твар хваравіты, сам невялічкага росту, гаворыць баязліва.

**Гатыньш** *(нясмела адчыняючы дзверы)*

Мне наказала маці, каб я паклікаў вас да стала.

Ц ы е п а

Што ты заганарыўся! Заходзь у мукамольню, нас прывітай. І дзверы зачыні. Вось так.

Г а т ы н ь ш уваходзіць і зачыняе дзверы.

О р т а

Дай добрай раніцы, сынок, і бог у помач.
Хто не кажа бог у помач,—
За плячыма чорта носіць.

Г а т ы н ь ш

Добрай раніцы! Бог — помач!

А н д а

Бог у помач і табе! Мы табе таксама помач: тваім коням высевак не пашкадуем.

Дзяўчаты смяюцца. Гатыньш бянтэжыцца і падаецца да дзвярэй.

Ц ы е п а

Пачакай ты. Раскажы хоць толкам, што ты нам прыходзіў перадаць.

Г а т ы н ь ш *(затрымліваецца)*

Снедаць клікалі.

А н д а

Ну пагавары хоць трошкі з намі, маладзічкамі, мы прыгожыя дзяўчаты, як адна. Ды ты не грэбуй. Мы замуж хоць у пятніцу!

**О р т а**

Адчапіся! Добра знаеш,— ён такі не гаваркі... Жаласна, сыночак, граеш. Пагавары з жалейкай, покуль закончым памол.

**Г а т ы н ь ш** *(паказвае рукой)*

Там з песнямі ідуць. *(Хоча пайсці.)*

**О р т а**

Я не чую. Дзе?

**Ц ы е п а**

Пачакай. Няўжо ніводнай ты не спадабаў дзяўчыны?

**Г а т ы н ь ш**

Спадабаў.

**З а н а**

І каго? Мяне?

**Г а т ы н ь ш**

Усіх.

**З а н а**

Бач, усіх! Выходзіць, Цыепа гэтакая, як і я.

**Г а т ы н ь ш**

Ты лепей.

**Ц ы е п а**

Я табе не даспадобы? Ці ж старая я нявеста?

**А н д а**

Але я маладая. Што, не падабаюся?

**Г а т ы н ь ш**

Ты кпіш з мяне.

А н д а

Дык можа лепей плакаць па табе?

З а н а

Што прысталі да хлопчыка? У яго ўжо ёсць свая нявеста. Як яму мы падабацца можам?

Гатыньш бяжыць да дзвярэй.

А н д а *(заступіўшы яму дарогу, абдымае)*

Не пушчу, прызнайся: Барбінька твая нявеста? Што ў цябе ў рукаве?

Гатыньш выпусціў маленькую лапатку для мукі. Анда падымае яе.

Гэта цуда, не лапатка! Абстругана гладка-гладка; спрытна ёй муку зграбаць! Каму яна? Дай мне!

Г а т ы н ь ш *(сціснана)*

Нізавошта.

А н д а

Дай мне: кпіць не буду!

Г а т ы н ь ш *(тым жа голасам)*

Гэта Барбалыні — яна працуе многа.

Кідае лапатку каля Барбы і выбягае.



Тыя ж самыя, без Гатыня. Гучны смех. Барба засаромелася, яшчэ мацней круціць жорны. Орта падымае лапатку. Здалёку далятаюць гукі песні.

З а н а

Хопіць рагатаць, дзяўчаты!
Во!.. Спяваюць: «Ветрык, вей!..»

Цыепа

Каб музыка быў з жалейкай!

Анда

Вецер свішча, спеў далёкі —
Не магу нічога ўчуць.

Зана

Добра мне чуваць напеў...

Цыепа *(перабіваючы яе)*

Чуеш, Зана, сэрданькам.
Ветрык да цябе нясе
Ястрабочка шэрага.



За сцэнай чуваць галасы — співаюць; яны яшчэ далёка, але ўжо можна разабраць словы.

Голас *(спявае)*

Сам нагледзеў, сам жанюся,
У бацькі, маці — не пытаўся.

Зана *(ускрыквае ў трывозе)*

Гэта ён! Гэта ён!
Ён засватае мяне!

Перастае рабіць.

Анда *(да Заны, таксама перастаўшы малоць)*

Ой, сястрычка, што ты мелеш?
Лепш бяжы прылюдзіцца.
Мне чуваць: спяваюць двое,
І сама я прыбяруся.

Шафер мне, табе — жаніх,
Кожнай ветрык гнаў па шчасцю.

Цыепа *(кідае прасяваць муку)*

Ой, і я таксама з вамі,
Я святліцу прыбяру,
Белага жвірку пасыплю.

Орта

Што ж ты, Зана, не сказала,
Што сваты сягоння ў нас?
Я ж бы дзверы ў твой церам
Кветкамі аздобіла.

Галасы *(усё бліжэюць)*

Трэці дзень куляем чаркі,
Хай жа скачуць нам баяркі.

Зана

Зараз, зараз! Мой адзіны. *(Да Барбы.)*
За мяне змялі, сястрычка,
Іншым разам я аддзячу.

Пацалавала яе.

Барба *(Зане, усё мелючы)*

Дык бяжы!

Орта *(смяецца)*

Цалуе Барбу,
Думаючы, гэта любы.

Зана, Анда і Орта наважыліся ісці.

●

За зачыненымі дзвярыма чуваць галасы, ціхая гаворка. Пасля:

Голас *(за дзвярыма, гучна)*

Людзі добрыя, чалом вам!
Адчыніце падарожным.

Цыепа

О мой божа! Сэрца ў пятках.

Зана *(падыходзячы да дзвярэй)*

Не вядома падарожным —
У вароты грукаць трэба?

Голас *(за дзвярыма)*

На чужыне паблукаеш...

Цыепа

Жорны стогнуць, млён рыпіць,
Што ж вы ціха ходзіце?

Анда

Вам бы ўкрасці мукамолак:
У чаўнок — ды наўцёк!

Голас *(за дзвярыма)*

Выгледзеў праз шчылінку
Чарацінку гнуткую,—
Быць ёй маёй суджанай.

Зана

Тызі, тызь, дзявочы злодзей!
Ой, хутчэй, сястрычкі, ў хату!

**А н д а**

Дамавік бы краў муку,
Каб хто дзверы адчыняў.

Дзяўчаты ўцякаюць, Цыепа з імі.



Чувацъ, як ломяцца ў зачыненыя дзверы, хочучы залезці ў мукамольню.

**Г о л а с** *(за дзвярыма)*

Адчыніце, вецер злосны!

**О р т а**

Што ты ломішся, жаніх,
Тут няма тваёй нявесты.
Маці йдзі прасі як след,
Талерамі пазвіні!

**Г о л а с** *(за дзвярыма)*

Сам нагледзеў, сам жанюся,
Ў бацькі, маці — не пытаўся.

**О р т а**

Ты сябе не можаш знаць,
Ты дзвярэй — і тых не бачыш!

**Г о л а с**

Дзверы, ад дажджу ўратуйце.
Вецер, вей, дзверы — прэч.
Ястраб, курапатка блізка.

**О р т а**

Трашчаць дзверы! Божа мой!
Прыйшоў з бору — гоніць з двору!

●

Раптоўна дзверы разнасцежваюцца. Далёка відаць Даўгава і відземскі бераг. У дзверы ўрываецца Улдыс, ловіць на хаду Барбу.

Улдыс

Уцякай не ўцякай —
З-пад зямлі цябе дастану.

Барба *(ускрыквае)*

Орта, вохці мне, схавай!

Орта *(да Улдыса)*

Валацуга, злое вока!
Што ад мукамолкі трэба!

Улдыс *(да Барбы)*

Дайся ў рукі, красна дзеўка,
Лепей я прыгледжуся,
Рыжая ці русая,
Ці ты ўбрана ў серабро?

Барба

Я не Зана, што ўглядацца?
Суджаная не твая!

Улдыс

Як цябе пазнаць магу?
Я ж цябе здалёку бачыў.
Дзе там плотка, дзе там стынка —
Серабрыцца ў кожнай спінка.
Дай бліжэй пагляджу,
Дык скажу, мая ці не ты.

**Б а р б а**

Хопіць мне тваіх казанняў:
Знаеш сам — я не твая.

**У л д ы с**

Белы твар мукой заснежаны,
Сярод снегу дзве пралесачкі,
А ў Заны павыцвілі
Ад гарачых пацалункаў.

**Б а р б а**

Орта, дзе ты ёсць? Ратуй!

**О р т а**

Смажаны вугор, прыблуда,
Згінь з вачэй, насаты дзяцел!
Млён на галаве патрушчу,
Заганю цябе пад жорны.

**У л д ы с** *(да Орты)*

Злейшай цешчы свет не бачыў —
Не язык, а крапіва.

**О р т а**

От яшчэ зяцёк знайшоўся,—
Шлында ты, дзявочы злодзей!

**У л д ы с**

Што гырчыш? Што грыміш?
Жорнамі твой рот зрабіўся?
Ці язык твой — млён дубовы?

Цягне Барбу да дзвярэй.

Будзе нас з табой, лілея,
Даўгава гушкаць на хвалях.

Б а р б а

Не пайду, адстань, смала!

Захінае галаву.

У л д ы с

Не ўцякай. Пачакай.
У цябе сінеюць вочкі
Сіняй хваляй Даўгавы.
У цябе бялеюць шчочкі
Белай пенай Даўгавы.

Б а р б а

Выпусці!

У л д ы с

Не выпушчу,
Пацалуй мяне спачатку,
Бо я Даўгаве паверыў
І ўзламаў плячыма дзверы.

О р т а

Подлы, хвалішся яшчэ!
Чэшацца спіна без кія?
Гуз такі ўзвалю на плечы —
Стане цеснай дамавіна.

Улдыс цалуе Барбу, хаця яна вырываецца з усіх сіл.

Барба (*ускрыквае, знянацку перапужаная*)

Ай!

Улдыс (*таксама спалохана*)

Што з табой? Чаго крычыш?

Орта

Што ты з ёй зрабіў, нягоднік?

Барба

Ай! Ты выпіў! Твае вусны...

Улдыс (*па-ранейшаму смяецца*)

Вусны? Што, яшчэ раз хочаш?

Барба, якая марна старалася вырвацца з рук Улдыса, раптоўна нахіляецца і кусае ягоную руку.

Улдыс (*адпускае яе руку, смяецца*)

Бач ты! Зубкі паказала!
Не дзяўчына, а ваверка.
Пачакай, маёю станеш —
Абкручу я вакол пальца.

Барба (*адбегшы да дзвярэй, з дакорам*)

Не! Тваёю мне не быць,
Не табе мяне абкручваць!
Ёлуп! Рукі — абцугі,
Твае вусны...

Улдыс

Ну, што вусны?

Барба

Страшная атрута ў іх.

Улдыс

Што з табой?

**Б а р б а**

Шукай лепш Зану,
У слязах цябе чакае.

Уцякае.



Тыя ж, без Барбы.

**У л д ы с**

Што такое?

**О р т а**

П'еш нашто?

**У л д ы с**

Ты пра што?

**О р т а**

Нясцерпна ёй.

**Г о л а с** *(за сцэнай)*

Гу! Гу! Улдыс! Дзе ты дзеўся?



Тыя ж. Уваходзіць **З а н а**.

**З а н а**

Што за крык тут, што за вэрхал?
Барба бегла стрымгалоў...
Улдыс, любы...

Убачыўшы Орту, змаўкае.

**О р т а**

Я пайду ўжо.

Выходзіць.

●

*Улдыс, Зана.*

**Зана**

Улдыс, Улдыс! Гэткай бурай
Ты паверыў Даўгаве!
Што стаіш? А пацалунак?
Сватай жа мяне хутчэй,
Маці ўжо чакае... Што ж ты?
Не цягні!

*Заслона.*



Двор. Направа вокны і дзверы гаспадарскай хаты, побач вокны і дзверы парабкаў. Каля сцяны скамейка. Між пабудовамі відаць далёкая лукавіна Даўгавы.

Улдыс. Дыдзіс. Мацi. Орта. Цыепа.

Мацi

Што яшчэ тут за прышэльцы
На мой двор сабраліся?

Дыдзіс

Гаспадыні — наш паклон.
Мы стаміліся ў дарозе,
Ехалі да вас здалёку.

Улдыс

Добрай раніцы двару
І ўсім, хто жыве ў ім!

Маці

Госці любыя, якая
Прывяла дарога вас?

Цыепа

Дзе ж паставілі вы коней?
Ім дадзім вады крынічнай
І аўса адборнага.

Маці

Чула я замнога шуму:
Вецер выў, трашчалі дрэвы,
Толькі аднаго не чула,
Каб стаеннікі іржалі.

Улдыс

Не сядлалі коней мы;
У чаўнах ад Краславы
Доўга калыхаліся.

Маці

Бач, вандроўнікі якія!
Пад адным іржаў стаеннік,
Пад другім стагналі хвалі.

Орта

Так і ёсць: вандроўнікі...
Ім наўме дзяўчат украсці.
Маці, палічы дачушак,—
Колькі потым застанецца?

Маці

Вас якім прыгнала ветрам?
Што ў маім двары згубілі?

Д ы д з і с

Шукаем мы цялушачку,
След якраз прывёў на двор.

М а ц і

Вось чаму замоўклі жорны
І дзяўчаты не спяваюць.

О р т а

Ці вандроўнік без вачэй?
У млынах цялят шукаць?

У л д ы с

Нам знайсці б тых мукамолак,
Што муку цялушкам мелюць.
Будзе мукамолачка —
Не збяжыць цялушачка.

Д ы д з і с

І хлапец бы больш не плакаў.

М а ц і

Тут такой не ўбачыце,
Вам дарога — ў іншы двор.

У л д ы с

У мяне пакрэплі рукі:
Веславаў я — змоклі вёслы,
Хай мне звяжа рукавіцы
Вязніца тваёй святліцы.

О р т а

Цёпла так, усё цвіце,
Ты ж без рукавіц азяб.

Улдыс

Усё цвіце, адна ты не;
Мне рукам ад сэрца золка.

Маці

Хто дазволіў пырніку
Дзятлінку такую ўзяць?
Ані шапкі аксамітнай,
Ні блiскучых ботаў з рыпам.

Дыдзіс

Што нам шапкі з аксаміту?
Што нам бляск рыпучых ботаў?
Ходзім на чаўнах у Рыгу,—
Нас не здзівіш анічым.

Маці

Чаўнары вы, весляры,
Вам навошта мукамолкі?
Што вам ворыва, сяўба?
Ні ячменю ў вас, ні жыта.

Дыдзіс

Арэ нам вецер, сее бог
Серабро на Даўгаве.
Лепей плысці ў лёгкім чоўне,
Чым араць зямлю цяжкую.

Улдыс

Дай вясёлку-мукамолку!
Даўгава мне сейбітка:
Золата я столькі маю,
Серабра не падымаю.

**М а ц і** *(сумна)*

Ой, Даўгава быстрая
Можа і на дно штурхнуць;
Спіць там і набытак панскі
І мамульчына ўцеха.

**У л д ы с**

З ясеню мой човен гонкі,
Ў золаце з кармы да носу.
Нашінае маці ветру
Трапяткі мой белы ветразь.
Па аснове чаратовай
З пены ўток перакідала
Маці ветру — ветразь ткала.
А для суджанай адзінай
Я змайструю човен з кветак.



А н д а адчыняе дзверы хаты, за спіной яе — і н ш ы я д з я ў ч а т ы.

**А н д а** *(ціха)*

Ах ты, Даўгава,— красуня,
Ах, вясляр,— прыгожы твар.

**У л д ы с** *(да дзяўчат у хату)*

Хадзі ў човен, кветачка,
Хадзі ў маю клетачку!
Бярозы за Даўгавай белыя,—
Лісце серабрыстае;
Сумуюць вербы за Даўгавай,—
Кветкі залацістыя.

Дзяўчаты, жартуючы, выпіхваюць А н д у за дзверы, Анда прыхарошваецца.

У л д ы с

Ах, які багаты двор:
Кветкамі ўсыпаны!

А н д а

Залатыя кветкі хараша
У вяночак уплятаюцца!

Ц ы е п а

Залатыя кветкі-краскі —
Сёстры косак залацістых.

О р т а *(да Анды)*

Залацістым косам болей
Падыходзіць дабрачыннасць.



Уваходзіць З а н а, прыхарошаная.

О р т а

Гэта хто яшчэ?!

З а н а

Я гатова хоць цяпер
З даўгаўцам пабрацца.

М а ц і *(да Заны)*

Што з табой? Мая дачушка!
Ты нашто на двор выходзіш?
І пра што твая гаворка?

З а н а

Добра жыць на Даўгаве,
І аб тым мая гаворка.
Сані самі мчаць зімою,
Паміж кветак човен — летам.

Улдыс

Даганяе сані скрып,
Гоніцца за чоўнам смех.

Зана

А нявеста веслярова
З ім гайдаецца сабе.

Маці

Сціхні лепей. Слухаць сорам!
Замуж самі прэцеся.
Ці вы гэтак працавалі,
Што і спін не разгіналі?

Орта *(да маці)*

Дзе там, добрая матуля
Шанавала дочак родных,
Сірата за ўсіх шчырэла.

Цыепа

Добра ўсім, як добры сам.

Зана

Ты ў нас, мама, добрая.

Орта

А пільнуе родных дочак.

Дыдзіс

Ці надоўга ж упільнуеш?
Вакол пальца сват абводзіць,
Словы хмелем сват салодзіць.

Улдыс

Цвіце ляшчына ад караня,
А цвет чырвоны — шчочкам радня.

Люба дзеўчыне, вiдаць,
Шчыра хлопцу даць руку.

Мацi

Статны хлопец, гожа ўбраны,
Не гаворыць — лiстам сцеле.
*(Да Дыдзiса.)* I другi жанiх, як месяц.

Дыдзiс

Суджаную й я шукаю. *(Гледзячы на Анду.)*
Двор мы гэты не пакiнем,
Курапатак не злавiўшы.

Анда

Захацеў нас, бел-малойчык,
Ледзь угледзеў, тут i ўзяць.
Ну, хiба я птушаня,
Што бяруць з галiнак дзецi?

Улдыс *(да мацi)*

Перад панам не здымаю
Я сваёй кунiчай шапкi,
Перад мамаю нявесты
Гнуся, быццам пальцы ў жменi.

Абодва, ён i Дыдзiс, згiнаюцца ў паклоне перад мацi.

Цыепа *(да Улдыса)*
Мацi маладых, як плiска,
Чаравiчкi з воску носiць.

Дыдзiс
Яшчэ болей чырванеюць
Шчокi ад кунiчай шапкi,
Боты ўсе мае ва ўзорах.

Улдыс

Быццам дуб зялёны хмелем,
Тройчы кушаком абвіт я,
Цвет бабовы даў каптан мне,
Цвет гарохавы даў шапку.
Шапку гэту ўзяўшы ў засень,
Шоўк зялёны перагнуўся.

Цыепа

Малады дубочак гонкі
Перад сонейкам схіліўся.

Улдыс *(да маці, паказваючы на дзяўчат)*

Зіхатліва ў сінім небе
Карагодзяць зоркі-сёстры.
Дай адну мне, досыць маеш,
Ноч яны табе развідняць.

Дыдзіс

Мне другую, досыць маеш,
Будзе трэцяя шчырэць.

Улдыс

Маці, ты з душою добрай,
Лепш падзелім напалам:
Агародчык будзе твой,
Ружу выламіць дазволь мне.

Маці

Хай на жалудах сініца
Берасцянку абхітрыла.
Толькі ты, жаніх, матулю
Лёсткамі не ашукаеш.

Улдыс

Цяжка йсці было ўгару,
Сонейку глядзець у вочы;
Цяжка мне было прасіць,
Тваё сэрца разлагодзіць.
Ты заходзь, калі заходзіш,
Сонейка, не стой над лесам.
Аддаеш дачку, матуля,
Дык аддай за даўгавінца!
Ён віры ўтаймоўваць можа.

Маці *(спалохана)*
Вохці мне! Віры ўтаймоўваць!

Орта
Вам дзяўчат бы толькі красці.

Маці

Вочы ястрабамі глянуць —
Курапаткі ў момант чэзнуць;
Вуснаў луг цвіце даспелы —
Прагнуць пчолы мёду ўзяць;
Слоў тваіх ядваб зялёны
Ловіць рыбу, быццам нерат.
Жудасны ты, рыбалоў,
Як віры, чарнеюць вочы.
Ты з'явіўся ўкрасці дочак.
Даўгава з паглядам чорным
Так прыходзіць ў вечар чорны,
Дарагія душы ўносіць.

Улдыс
Маці прыгажунь, нічога
Я не быў нікому вінен:

Ліпа ёсць за Даўгавай,
Доўг табе аддасць яна.

М а ц і

Вымятайся, перасмешнік,
Дочак не аддам табе я.

У л д ы с

А мы самі возьмем іх.

М а ц і

Мы схаваем іх усіх!
Ну, дзяўчаты, уцякайце!

У л д ы с

Хто патрапіць, будзе наш!

Зана і Анда ўцякаюць.



У л д ы с

Не хітры, красунь матуля,
Лепей адкажы нарэшце:
Ці дасі на ноч падушку
І сагрэць пасцель — дачушку?

М а ц і

Марныя, хлапчына, думкі.

У л д ы с

Як не аддасі дачушку,
Дык табе мы бунт учынім:
На Даўгаве ў чоўне хісткім
Палюляем у ахвоту,—

Ты крычыш, а мы гайдаем,
Аж пакуль дачку не ўступіш.

Мацi

Пусталыга, забулдыга,
Як дачку аддаць такому?

Улдыс

Ну, калі не хочаш гэту —
Тую дай, што недзе ў хаце.

Мацi

А яшчэ табе навошта?
Тут і так дзяўчат замнога.
Ведай, не такому ветру
Мой шчаджоны мак развеяць.

Орта

Растапчу дзядоўнік злосны,
Каб не замінаў дарогі.

Улдыс

Падай вобзем, распластайся,
Шапка з дарагой куніцы,—
Гутару [illegible] матуляю.

Кідае са злосцю шапку вобзем. Дыдзіс, крыху счакаўшы, яе падымае.

Дыдзiс

Толку што мне з белых шпораў,
Боты чорныя навошта?

Орта

Ланцугамі ўперазаўся,—
Галавою ў вір скачы!

Улдыс

Божа, дай сляпоту воўку,
Дай мядзведзю нос куртаты,
Гнеў нашлі — няхай матуля
На карачках поўзае.
Духу ёй не дай у лазні —
Хай сабе папарыцца.

Дыдзіс *(да Улдыса)*

Не падступішся да цешчы,
Як яе задобрыць нам?

Улдыс

Словы кідаем на вецер,
Як пялёсткі, ападаюць.
Валачы віна і чаўна —
Задобрыць мамуленьку!

Улдыс і Дыдзіс выходзяць.



Орта

Неба хмарай зацягнецца —
На палі падзе раса.
Панаедуць сваты-чмуты —
Гаспадыня, піва стаў.

Маці

Востры язычок у свата!

Орта

Трэба, як тавар збываеш,
Загаворваць зубы ўмець.

Мацi

Выдаваць за срэбра медзь.

Орта *(да мацi)*

Ну пайшлi ўжо, не чуваць. А гэты цi не з Радзенiекаў, з Вялiкiх Янi, што на ўзбярэжжы самым. Яны багаццем дужа славяцца.

Цыепа *(да мацi)*

Проста шчасце. Проста шчасце! Ён за тваёй дачкой прыехаў. Прымi як найлепей.

Орта

Бач, дачка сумела сабе жанiха знайсцi. А ты i не ведала.

Мацi

Прымем iх, прымем. Таксама шчасце для яго — браць жонку з добрага двара.

Цыепа

Ах, мой божа, табе ён ручкi-ножкi павiнен цалаваць. Ды Андзе больш да пары ён.

Орта

Каму ён болей да пары, пабачым яшчэ. Ён быццам многа п'е. У Брасле ён аднойчы ўсю выцадзiў карчму. Багацце, як вясло, упусцiш — паплыло.

Мацi

Нiбыта Дыдзiс мае дзесяць кароў i тры канi.

**Цыепа**

Абодва скупліваюць дабрыну і возяць
у Рыгу, адтуль зноў тавары прывозяць.
Самі йдуць жывыя грошы.



Уваходзіць, крадучыся і падслухоўваючы, **Анда.**

**Маці**

Ведаеш, казалі хлопцы,
Ёсць за Даўгавай маёнтак.

**Орта**

Без гаспадара маёнтак,—
Сам то ў Краславе, то ў Рызе,
Гаспадынька ўсё адна
У куточку слёзы лье.

**Анда**

Не падумала б я плакаць,
Я хадзіла б смеючыся,
Шыкавала ўбраннем рыжскім.



Уваходзіць **Зана.**

**Зана**

Мама, бач, які ён статны,
Як прыгожа словы льюцца.

**Маці**

Так прыгожа, аж задужа,
Не табе, ціхоні, пара.

Лепей бы ён Анду ўзяў,
Задзірака — неўступаку.

Зана
Толькі мой ён, толькі мой!

Анда
На мяне ён вока кідаў.

Зана
Кідае жаніх на ўсіх.

Анда
Што ж табе не даў рукі?
Не цябе прасіў у маці?

Зана
Пасаромеўся.

Анда
Не з тых ён.
Хто да Барбы заляцаўся?

Зана
Барба, Барба! Божа мой!
Пацалунак мой украла!

Цыепа
Трэба не такі табе,—
Дыдзіс болей падыходзіць.

Зана
Вось табе ён, ды не мне.

Маці
Дыдзіс мае двор і грошы,
Ён разважлівы, ціхманы.
Улдыс злога ветру сын —
Дрэвы ломіць на вясне.

**З а н а**

Цяжкая рука ўдаўцова,
Цяжалейшая за грошы.

**М а ц і**

Грошы цяжкія, ды зробяць
Лёгкай гэтую руку.
Цяжкая рука ў п'янюгі,—
Ці ж таму яму адмовіш?
Пойдзем, Орта, Цыепа,
Пра гасцей нам час падумаць.

**Ц ы е п а**

Прытрымаць абодвух варта.
Трое тут знайшлі б нявест.
Золату не знае ліку,—
Дзе цяпер такога ўзяць?

**О р т а**

Жонак дзе такіх узяць?

Маці, Орта і Цыепа выходзяць.



**З а н а**

Анданька, што кажаш ты?
Ён на Барбу пазіраў?

**А н д а**

Так, сястрычка.

**З а н а**

Мае вусны
Ледзь крануў, калі ўляцела
Зноў у мукамольню я.
Барба з усіх ног — наўцёкі.

**А н д а**

Клікнем Барбу, запытаем.
Барба! Барба!

**З а н а**

Будзе вам!
Барба дзеўчанё яшчэ;
Пра сватоў ёй рана думаць...

**А н д а**

Ты мне Улдыса аддай,
Твой жаніх мне даспадобы.

**З а н а**

Не аддам я, не аддам я!
Анікому! Анікому!

**А н д а**

Дыдзіса вазьмі: шаўковы
Пояс і ва ўзорах боты.

**З а н а**

А калі не возьме Улдыс —
Замуж не пайду ніколі.

**А н д а**

За таго пайду, хто возьме.
Сёлета не застануся,
Ланцугамі не ўтрымаюць.



Уваходзіць **Б а р б а**, апранутая па-будзённаму.

**Б а р б а**

Клікалі мяне, сястрычкі?

**Анда**

Ад сватоў чаго хаваешся?
Нешта чырванеюць шчокі —
Употай цалавалася?

**Барба**

Ты пра што? Які мне сорам!

**Зана**

Засталася ў мукамольні,
Калі мы пайшлі прыбрацца?

**Анда**

Улдыс уламіўся ў дзверы —
Засталася мілавацца?

**Зана**

Век мінуў, пакуль ты збегла.

**Барба**

Зблытаў ён мяне з табой.
Я ўцякаць, крычаць — трымае,
Палец укусіла — й прэч.

**Зана**

Ці пацалаваў цябе ён?

**Барба**

Пачала я ў той жа момант
Адмывацца мылам едкім.

**Зана**

Больш на вочы не трапляйся.
Не хапала ім убачыць,
Як трасеш ты лахманамі.

Б а р б а

Боязна яго мне ўбачыць.

А н д а

Ён не для тваіх вачэй!
Лепш схавайся, лепш зашыйся,
Збойся ганьбы, палахліўка.



Уваходзіць О р т а.

О р т а

Уцякайце — ўжо ідуць!

Зана і Анда кідаюцца да дзвярэй.



О р т а і Б а р б а адны, гавораць ціха і таропка.

О р т а

Барбінька, нашто хавацца?
Жаніхі ідуць шукаць.

Б а р б а

Пабягу я ў лес.

О р т а

Не ўздумай!
Лепш у хлеў цябе схаваю.
Ці чаўнар не даспадобы?

Б а р б а

Жах, які ён апантаны.

**О р т а**

Жар вачэй гарыць ад сэрца,
Сонца па-над галавою.

**Б а р б а**

У яго пінжак без гузіка,—
Ўгледзець [redacted] адно паспела.
Гузік бы прышыць хацела,
Мне шкада хлапчыну стала

**О р т а**

Ах, усім ты спачуваеш.
І мяне ты падмяняла,
Мне табе аддзячыць час.
Дык хадзі сюды!

Барба ідзе ў бакоўку.



О р т а. Уваходзіць Ц ы е п а, азіраецца на баках.

**О р т а**

Куды ты?

**Ц ы е п а**

Што, ідуць?

**О р т а**

Паслухай лепш!

**Г о л а с** *(п'яна пяе)*

...Трэці дзень куляем чаркі,
Хай жа скачуць нам баяркі...

**Цыепа**

Дзеўчанё бліжэй схавай!
Як яе жаніх не ўбачыць,—
Дык не ўбачым мы гасцінцаў.

**Орта**

Ён убачыў; не хвалюйся.

Выходзіць.



Цыепа адна, праз нейкі час уваходзіць Барба.

**Цыепа**

І куды ж сваю схаваць мне?
*(Да Барбы.)* Ты куды, ўцякаць?

**Барба**

Пусці!

Стрымгалоў выбягае.



Цыепа, неўзабаве з'яўляецца Анда.

**Цыепа** *(ціха)*

Анда, хутка!

**Анда**

Дзе падзецца?
Дзе хутчэй убачыць змогуць?

**Цыепа**

Будуць піва з сырадоем
І пшаніца?

**Анда**

Будуць, так!

Ц ы е п а

Тут схавала Орта Барбу;
Барба збегла, замест Барбы
На цябе пакажа Орта.

А н д а

Ну й пацеха! Проста смех.
Орта-злючка пасінее.

Ц ы е п а

Хай сінее, хай чарнее.
Я гасцінцы ўсе вазьму.
Хто па сэрцу, Дыдзіс... так?

А н д а

Д ы д з і с — мой, таўстун — не заяц...

Ідзе ў бакоўку.



Уваходзяць У л д ы с і Д ы д з і с з конаўкамі, са збанамі.

У л д ы с *(спявае)*

Трэці дзень куляем чаркі!
Хай жа скачуць нам баяркі!

Д ы д з і с

Ціха! Пойдзем дзяўчат шукаць. Недалёка схавацца павінны былі. Сваю Зананьку ты знойдзеш адразу.

У л д ы с

Ах, Заначку!

Дыдзіс

Так. Сама ж табе сказала:
«Я гатова хоць цяпер
З даўгаўцам пабрацца».
Ішла табе насустрач. І каму ты не прысушыш сэрца, гэтакі ўдалец-хлапец.

Улдыс

Прыкра, што сама на шыю вешаецца.

Дыдзіс

Яна ж даўно з табой заручана.

Улдыс

Даўно, аж пачынае забывацца. Аднак старая не паказвае ўсіх дочак. Мае траіх, а не дзвюх.

Дыдзіс

Што за спрытная тая другая! Язычок, нібы ў гадзюкі, востры. Ногі яе, нібы ў ваверкі, быстрыя. Адно шкада, што толькі цябе пасе вачыма.

Улдыс

Дзе ж тая трэцяя?

Дыдзіс

Якая трэцяя? Калі б з табою не паехаў разам, я ўжо злавіў бы тую ваверачку. Шаўковы мой кушак ёй дужа даспадобы.

Улдыс

Пра сваё адно пяеш!

Дыдзіс

Што, табе яна не падабаецца?

Улдыс

Дзяўчо прыгожае, разы тры пацалуеш і адпусціш. Здабудзь мне тую, што хавае вочы. Мне падрапала ўсе рукі, як хацеў пацалаваць.

Дыдзіс

Тая, што ў мукамольні была? Як жа мог ты разгледзець яе ў поцемках? Сірацінка-чарацінка. Збегла, не паказвае вачэй, не мае ў што прыбрацца. Такую возьме хто?

Улдыс

А мне каб што! Яе хачу пабачыць. Яна мне патрэбна. Дастану з-пад зямлі, хадзем шукаць!
Ветрык, вей, гані жвавей!



Уваходзяць маці, Орта, Цыепа, парабкі.

Маці

Чуем, што здалёк прыгнаў
Вецер нам з гасцямі човен.

Дыдзіс

Мы гарэлкі ўзялі шмат —
Сватаем красунь-дзяўчат!

Улдыс

Аддаеш ці не галубак —
Пі віна салодкі кубак!

**О р т а**

Бач, які жаніх харошы,—
І не думае пра грошы.

**У л д ы с**

Толькі піце, ягамосці.
Будзе ўсім, у Рызе многа!
Пі, што саладзей, матуля,
Ты ўзамен дасі дачушку,
Ты, як ёсць, усіх пакажаш,
Возьмем, што для сэрца міла.

**М а ц і** *(п'е)*

За віно за зеляное
Ці аддам табе дзяўчыну?
Мае дочкі, як званочкі,
Як расінкі на вяночку.

**У л д ы с**

Пачастую саладзейшым,
Што як мёд душы лагоднай.

**М а ц і** *(п'е)*

Я ўжо ўсіх вам паказала,
Бяры з гурту, хто па густу.
Толькі вам турботаў будзе:
Да адной у лес пабеглі.

**У л д ы с**

Нам не прывыкаць шукаць.

**П е р ш ы п а р а б а к**

Мы паможам іх знайсці.

**Д р у г і п а р а б а к**

Толькі не шкадуй гарэлкі.

**Орта**

І мы разам.

**Цыепа**

І мы разам,—
Нам адно пірог салодкі!

**Улдыс**

Піце, хоць галовы мыйце.

**Дыдзіс**

Маці прыгажунь, падумай,
Што сватам далёкім трэба.
Накрывай свой стол ліповы,
Стаў салодкі пачастунак.

**Цыепа** *(паказвае)*

Пашукай вось!

**Орта** *(да Цыепы)*

Пашукай вось!
А каго мне тут шукаць?

**Цыепа** *(ціха, з іроніяй да Орты)*

Бачыў ён, не клапаціся.



**Улдыс** і **Дыдзіс** шукаюць дзяўчат, адчыняюць і зачыняюць дзверы. Разнасцежыўшы дзверы хлева, выходзіць са свайго схованшча **Анда**.

**Улдыс**

Акунёчак залаценькі,
Мігатліва ў рэчцы скачаш.

**Орта** *(да Анды)*

Як, ты тут? А Барба дзе?

А н д а

У вавёрак недзе ў лесе.

У л д ы с

Тут ёсць Барба? А дзе Барба?

А н д а

Бачыш, што ж яшчэ шукаць?

О р т а

Так і быць, я вам знайду.

Выходзіць.



У л д ы с

Адшукаць, адшукаць!

А н д а

Што шукаць? Дык Барба — я!

У л д ы с

Ты? Ну, пакажы мне вочы.

А н д а

Зазірні на дно ў студні.

У л д ы с

Была б Барба — вочы долу;
Толькі б сілай зазірнуў я,—
Адшукаць! Адшукаць!

А н д а

Стану вам шукаць, чакайце,
Не знайсці ніколі вам.

Д ы д з і с

Ці ты Барба, ці ты Анда,
Першая на лаву сядзь;
Ідзе шчасце — бяры з краю.

А н д а *(глядзіць на Дыдзіса)*
Шчасцейка тваё, таўстунчык!

Садзіцца на лаву.



Пошукі працягваюцца; парабкі прыводзяць З а н у.

П е р ш ы  п а р а б а к
Золата знайшлі — дый годзе,
Да такіх далёка Рызе!

Д р у г і  п а р а б а к
Што бялей: ці белы ножкі,
Чаравічкі ці панчошкі?
А вянок — з чырвоных руж.

М а ц і
Белай хусткаю акрыла
З серабрыстымі махрамі.

У л д ы с
Прыгажосць твая, як тая
Чарамшынка ў белым цвеце!

Ц ы е п а
Малады жаніх цярплівы,—
Досыць даў дзяўчатам часу
Пышна ўзбіць свае спадніцы,
Хусткі шоўкавыя ўскінуць.

У л д ы с
Ну, нібыта мак чырвоны
Чырванее ў спелым жыце.

Анда

Як раскідзістая ліпа
Ля прысадзістага вяза.

Улдыс

Сонейка яшчэ на ўскоце —
Лес з вяршалін загарэўся;
Дзеўчыну не цалавалі —
Шчокі макам пунцавеюць.

Зана

Ранне ўсё бялела, рдзела,
Толькі зараз ты заўважыў.

Улдыс

Так шукаў я, што не бачыў,
Позірк той мне вочы слепіць.
Каля нас прысядзь на лаву:
Проста ў сэрца глянь вачыма!
Я ж усё шукаў навокал...

Анда

І блукаў у мукамольні...

Першы парабак

Сват, ці нам яшчэ шукаць?

Другі парабак

Ці знашлі мы, і табе ўжо
Даспадобы маладая?

Улдыс

Аднае яшчэ не бачу:
Дзе ў муцэ ўся мукамолка?

Цыепа

Дзе ж там Орта? Пагляджу.

Выходзіць.

●

Тыя самыя без Цыепы.

З а н а *(да Улдыса)*
Мукамолкі ўсе малолі.

М а ц і *(да Улдыса)*
І каго яшчэ прывесці?

У л д ы с
Выведзі, матуля-поўня,
Усіх сваіх дачушак-зорак
Паказаць маладзіку.
Што ж адных і тых паказваеш?

М а ц і
Ну, тады ідзі знаёмся
Сам з любою мукамолкай.

П е р ш ы п а р а б а к
Што ж, па жаніху — нявеста.

Д р у г і п а р а б а к
Пойдзем прывядзём па госту.

Выходзяць.

●

Тыя самыя без парабкаў.

М а ц і
Сядзь жа побач, маладзён.

Д ы д з і с
Будзем піць віно і піва,
Каб лягчэй было чакаць.

Мацi

Пачастуйся хлебам жытнім,
Нашай белай перапечкай.

Улдыс

Перш чым есці, трэба ўбачыць
І млынарку, і пякарку.

Анда

У гэтай перапечцы ёсць
Наша доля меліва.

Улдыс

Долю адламі сваю —
Дык я рэшту пакаштую;
Шчочку адвярні адну —
Я другую пацалую.



Уваходзіць першы парабак і прыводзіць Цыепу, якая накрыта хусцінкай.

Першы парабак *(да Улдыса)*

Вось і маеш мукамолку
Тую, што ў муцэ ўся.

Анда

То цяпер ужо цалуй
У абедзве шчочкі.

Мацi

Гэта будзе даспадобы?

Улдыс зрывае з Цыепы хусцінку, усе рагочуць.

Улдыс *(да маці)*

Зноў, красунь матуля, маніш,
Ды мяне не ашукаеш! *(Да Цыепы.)*

Так і быць, забяру,
Многа мыла навару.

Усе рагочуць. Цыепа ўцякае ад сораму.



Уваходзіць другі парабак, вядзе цялушку.

Другі парабак
Вось яшчэ, малая, праўда. *(Да Дыдзіса.)*
Мо падыдзе табе?

Усе рагочуць.

Дыдзіс
От цяля!

Маці *(да Дыдзіса)*
Якраз шукаў,
Гаварыў, сюды забегла.

Анда
Жаніхі, ці хопіць вам?
А ці лепш яны за нас?

Першы парабак *(да Улдыса)*
Мы прывесці можам больш,
Перш за гэтых заплаці.

Улдыс *(да парабкаў)*
Ні віно, на тым і плата.
Хай сядзіць і гэта побач
З іншымі дзяўчатамі;
Хай глядзяць, хто ёсць у маці.

Усе рагочуць з Дыдзіса. Парабкі выходзяць.

Уваходзяць **Цыепа** і **парабак**; вядуць **Гатыня**.

**Цыепа** *(трымае за руку Гатыня)*

Наце вам апошнюю,
Калі мной пагрэбвалі.

**Гатыньш**

Ой, пусціце мяне, браткі!
О мой божа! О мой божа!

**Дыдзіс**

Што за дзіўная дзяўчына?
Чуб кароткі, нагавіцы,
Голас, нібы ў казляняці.

**Цыепа**

Мы яму завяжам хустку —
Будзе самы раз нявеста.

**Анда**

Раз дзяўчат вам не хапае.

**Гатыньш**

Гора, гора, гора мне!

**Маці**

Што ты, Гатынь, так крычыш?

**Цыепа**

Ты ж не казляня, не рэжуць!

**Гатыньш**

Дзе ты, Орта! Дзе ты, Орта!

**Маці**

Не крычы: яны жартуюць.

●

Уваходзіць Орта.

Орта
Ціха, ціха! Што з табой?

Маці
Захацелі жартаваць,—
Гэтак час ідзе хутчэй.

Орта
Ну нашто дзіця дражніць!

Улдыс *(да Орты)*
Барба дзе? Хто, ўрэшце, Барба?

Орта
Не змагла я ўгаварыць:
Мае рваную спаднічку
І замытую хусцінку.

Анда
Калі Барба не прыйшла,—
Гатыня табе ўзялі мы.

Цыепа
І была б табе дзяўчына,
Ды хусцінкі не завяжаш.

Орта *(да Цыепы)*
Перасмешніца, знікай.

Гатыньш
Ой, мне гора, Орта! Ой!

●

Уваходзіць перапалоханая Барба.

Барба
Што з табою, Гатынь? Што?

**Гатыньш**

Мне яны... казаць нялоўка...

**Орта** *(да Барбы)*

Хочуць завязаць хусцінку
І зрабіць яго дзяўчынай.

**Барба**

Божа мой! Хто робіць так?
Хто над хлапчуком смяецца?

**Улдыс** *(ускрыквае)*

Хто такая? Хто такая?

**Дыдзіс** *(да Улдыса, садзіць яго на лаву)*

Пачакай, тут будзе жарт.

**Парабак** *(да Барбы)*

Хочаш смех наш засмуціць?

**Барба**

Шкада хлопца.

**Парабак**

Бач, шкада!

**Анда** *(да Барбы)*

Быць заступніцаю хочаш?

**Барба** *(да парабка)*

Любыя, яго пусціце.

**Дыдзіс**

Не пускаць, надзець спадніцу.

**Улдыс**

Голас чуў, здаецца, недзе.

*(Звяртаецца да Заны.)* Хто такая?

З а н а *(да Улдыса)*

Не чапіся!

М а ц і *(да Улдыса)*

Больш хвалюе парабчанка,
Чым шаноўнай маці дочкі?

А н д а *(да Барбы)*

Што прыйшла? Хіба тут кухня?
Жаніхі якраз чакаюць,
Ці не хочаш паказацца?

Ц ы е п а

Што ты хочаш ад хлапчыны?
Ці не жаніха шукаеш?

Б а р б а

Гатынь, уцякайма хутка!

О р т а

Гатынь, будзь! Застанься, Барба!

У л д ы с *(ускрыквае)*

Гэта Барба? Гэта Барба?
*(Да маці.)* От яна, твая дачушка,
Мукамолка, што ў муцэ ўся.
Ты знарок яе хавала.

М а ц і *(да Улдыса)*

Не мая дачка, хлапчына,
А маёй сястры сіротка.

У л д ы с

Барба, не ўцякай! Трымайце!

О р т а

Што ж, застанься, Барбалынька.

Мацi

Хай iдзе сябе прылюдзiць,
Хай мне сораму не робiць.

Улдыс

Браць хачу яе такою:
У заношанай спаднiчцы,
З непрыбранай галавою,
З агрубелымi нагамi.

Барба *(да Гатыня)*

Уцякайма!

Орта *(трымае яе)*

Не пушчу я.

Дыдзiс *(да Улдыса)*

Улдыс, лепей супакойся;
Нi ты шчокi яе бачыў,
Нi табе знаёмы голас,—
Рыжскае вiно прычына.

Улдыс *(падымаецца)*

Галава свая на шыi:
Шчокi паглядзець пайду,
Галасок салодкi ўчуць!

Зана *(усаджвае яго на лаву)*

Улдыс, думай, не жартуй!
Хай таго мiнае сiвер,
Хто пад тонкаю дзяружкай,
Хай таго мiнаюць слёзы,
Хто без бацькi, без матулькi.

Улдыс

Я хачу — зусiм не жарты —
Дзеўчыну пры сонцы ўбачыць,
Што я ўпрыцемку прыкмецiў.

**З а н а**

А нашто глядзець дзяўчыну,
Калі я абранніца?
Вытапчаш гару нізінай,
Покуль гутарыш з табою.

**У л д ы с**

Ты, Заніта, люба мне.
Рупіць палахліўку ўбачыць.

**М а ц і** *(да Улдыса)*

Чэсным будзь, добры хлопец,
З чэснай матчынай дачушкай.

**А н д а**

Жаніха не страш, матуля,
Ён не знае, дык скажу я.
Марныя надзеі, думы:
Іншы ў Барбы нарачоны.

**У л д ы с**

Што мянціш ты, як мянташка?

**Ц ы е п а** *(да Улдыса, паказваючы рукой на Гатыня)*

Гатыньш! Гатыньш!

**П а р а б к і**

Гатыньш, так!

**Б а р б а**

Сціхніце! Хлусіць не трэба!

**О р т а**

Мелеце лухту навошта?
Жарты вам, а іншым — слёзы.

Анда
Праўда, праўда! Паспрабуйце
Гатыню накінуць хустку!
Ці дазволіць вам нявеста?

Дыдзіс
Патрымаць! Надзець спадніцу!

Парабкі хочуць завязаць Гатыню хусцінку. Той уцякае, не даецца.

Барба *(да парабкаў)*
Ах, пусціце! Што за здзекі?

Орта *(да парабкаў)*
Досыць вам!

Маці
Мацней трымайце!

Гатыньш
Людзі!

Анда *(дражнячы Гатыня)*
Любая, ратуй!

Барба
Гатынь, да мяне хадзі!
*(Да Гатыня.)* Галаву схавай мне ў рукі.

Гатыньш так і робіць.

Анда
Бач, як жаніха бароніць!
Ты яго кахаеш, Барба?

Барба
Што ты кпіш? Люблю яго!

Улдыс
Не дзяўчына — любата!

**Мацi**

Ты ці возьмеш, Гатынь, Барбу?

**Гатыньш**

Так.

**Мацi**

Цалуйцеся тады!

**Улдыс** *(падымаецца і набліжаецца да Барбы)*

Барба, стой, мяне вазьмі!
Вочы на мяне ўзнімі.
Пацалунак дай салодкі,—
Дам віна салодкага,
Будзе кубак не гарбаты.

**Барба**

Лоўкі ты, ды не салодкі,
Не з віном — з гаркотай кубак.

**Улдыс** *(стараецца зазірнуць ёй у твар)*

Што за птушка? Пакажыся!

Барба адхінаецца, адварочваецца.

**Орта**

Барба, ой!

**Улдыс** *(бярэ кубак, падае Барбе)*

Салодка — пі!

**Барба**

Гатынь, прэч хадзем адсюль!

**Улдыс**

Хай і нарачоны вып'е!

Дае кубак Гатыню і тут жа наўмысна аблівае яго. Барба выбівае ў Улдыса кубак з рук так, што ўсё віно выліваецца.

Барба

На засохлы лес твой смех,
Пусталыга, забулдыга!

Улдыс

Ну й калючая дзяўчынка,
Я табе ўсё гэта ўспомню!

Барба выбягае і трымае за сабой дзверы.

Улдыс *(да Барбы, якая за дзвярыма)*
Паланю цябе сягоння ж
У абдымкі трапяткія
І я вачэй сарву хусцінку.

Орта *(да Улдыса, супакойваючы)*
Сынку, сорамна дзяўчынцы.

Улдыс *(каб чула Барба, з пагрозай)*
Замаўчу — дажджом заплачаш,
Перуны ударацъ з трэскам,
Як цябе памчу я ў чоўне
Даўгавай успененай,
Калі ляжа вечар чорны.

Заслона.



Гаспадарская палова, вялікі пакой. Направа дзверы, што вядуць на кухню. У задняй сцяне дзверы і вокны ў сад. Стол, лавы пры сценах. Дзверы ў сад разнасцежаны.

Гатыньш *(адзін, іграе каля дзвярэй на жалейцы, потым пяе вясёлую жартоўную песню)*

Дзеці, йдзіце паглядзець,
Хто гэта грукоча ў хаце!
У святліцу жонку з лазні
Пад руку вядзе цвыркун,
Скача ўперадзе блыха,
Ходзіць ходырам запечак.
У льняной цвыркун сарочцы,
Блошка ў хустцы з аксаміту.

●

Уваходзіць Б а р б а з саду.

Г а т ы н ь ш

Барба, што табе скажу!
Спяць пасля абеду ўсе,
І ніхто не ўчуе нас.

Б а р б а

Што ты так развесялеў,
Як сініца напрадвесні?
Сэрца нудзіцца маё,
Як галубка восенню.

Г а т ы н ь ш

Не журыся, Барбанька:
Узляцеў з галубкай голуб —
Паляцім за імі ўслед
Над лясамі, балатамі,
Аж туды, дзе сонца ўсход.

Б а р б а

Толькі думы ў сінім небе,
А ў балоце мы з табой
І глядзім, як ноч ідзе.

Г а т ы н ь ш

Прэч гані ліхое ліха,
Выкінь яго ў Даўгаву.

Б а р б а

Ў Даўгаву? А з Даўгавы
Вецер вее, гоніць ліха,
Топіць ліха цяжкі човен.

Г а т ы н ь ш

Барбінька, аддай мне ліха,
Са сваім развею ў небе.

**Барба**

Ты чаго такі шчаслівы?
Ты ж стагнаў пахмурым ветрам,
Івалгай лямантаваў?

**Гатыньш**

Сённяшніх тваіх два словы.

**Барба**

Што за словы?

**Гатыньш**

«Любы Гатыньш».

**Барба**

Так заву цябе заўсёды.

**Гатыньш**

Калі маці нас пабрала...

**Барба**

Ах ты, Гатынь, што пляцеш?
З цябе кпілі злыя людзі,
Немым голасам крычаў ты,
Заступілася я з жалю.
Рад, што над табой смяюцца?

**Гатыньш**

Што яны, чужыя кпіны?
Толькі засвішчу ў жалейку —
Праз шэсць дзірачак іх выдзьму.
Больш не крыкну, не баюся,—
Калі ты сказала «любы»,
Калі маці нас пабрала.

**Барба**

Ставіш сам нас на пасмех?

Гатыньш
Барбінька, мяне не любіш?

Барба
Любы Гатынь: ты ж слабы.
Раптам кажаш: «Нас пабрала».
Не пайду ніколі замуж.

Гатыньш
Мы з табою заручоны,
Толькі пацалуй мяне!

Барба
У цябе наўме благое!
Я к табе з душой, а ты!
Я пайшла, ты заставайся.

Гатыньш
Гора мне, не трэба, Барба!
Думак злых не меў ніколі.

Барба
Я пайшла.

Гатыньш
Чакай! Чакай!
Хоць не так далёка дыхай.
Прытулі к жалейцы вусны,
Пра цябе няхай спявае.
Не прыгубіш — абяздоліш,
Без душы жалейку кінеш.

Барба
Я аддам сваё дыханне
Суджанаму ўсё да кроплі.

Гатыньш
Гора мне, пабудзь, не йдзі!
Ты мяне не любіш, Барба?

**Барба**

Я люблю, будзь толькі добрым.

**Гатыньш**

Толькі бачыць твае вочы,
Толькі чуць твой голас любы,—
Хопіць гэтага на век мой.
Хоча ўзяць цябе ў мяне
З Даўгавы прылётны вецер.

**Барба**

Не пайду за Улда замуж.

**Гатыньш**

Барба любенькая, Барбінь,
Уцячом мы з гэтай хаты.
Узляцім — з галубкай голуб,
Уцячом, злучыўшы рукі.
Спяць усе, не ўбачаць.

**Барба**

А куды ўцячом абое?
У цябе слабыя ножкі.

**Гатыньш**

Не заві мяне калекам.
Хопіць — людзі папікаюць.

**Барба**

Гатынь, ты навошта так?
Проста на дарозе ўпаў.

**Гатыньш**

Варта толькі раз упасці,
Будуць людзі век смяяцца.
Мелася сама ўцякаць,
Калі жаніхі шукалі.

**Барба**

Сэрцанька тады рунела,
Як ялінка тая ў садзе,
Ды зялёную зламалі.

**Гатыньш**

Уцякай ад ветру злога.

**Барба**

Як жа бегчы супраць ветру?

**Гатыньш**

Во ідуць! Хутчэй адсюль!

*Абодва выходзяць.*



*Справа з боку кухні ўваходзяць Улдыс і Дыдзіс.*

**Дыдзіс**

Пакінеш ты, нарэшце, бегаць, як апантаны, ды шнырыць па заўголлю, па закутках, па гаях, па равах, па палях жытніх! Што ты за адной вавёркай цэлага паўдня ганяешся? Ні за адной ніколі так не ўлягаў. Перад тваімі ж вачыма скачуць прыгожыя курапаткі і перапёлкі і самі просяць іх зласіць. Што так ты да яе прысох?

**Улдыс**

Яна будзе ў маіх руках. Ці прысох я, ці не прысох, ды вадзіць мяне за нос не дазволю. Я пакажу ёй, як мяне, Улдыса, цвяліць! Выпіць дай!

Дыдзіс

Піў ты колькі хацеў, апомніся. Цябе ж чакаюць маці і Зана на заручыны.

Улдыс

Да д'ябла ўсе гэтыя заручыны! Ці няма яшчэ ў маці дочак? Я дзяўчынцы гэтай хачу такую лазню задаць, каб вочы ад слёз чырвонымі сталі.

Дыдзіс

Не пі, не пі! Яшчэ якое глупства зробіш. Хвалюецца ўжо маці і злуецца на цябе, і Зана твая плача. Яна ж [illegible] прыбыткам.

Улдыс

Ідзі ты ды суцеш яе!

Дыдзіс

Ідзі, ідзі, суцеш! Яна мне ледзь не павырывала вочы; такімі словамі назвала, якіх ніколі не даводзілася чуць, мамчыных дочак сватаўшы, а я нямала за свой век пасватаў. Вазьму я лепей Анду.

Улдыс

От якая, браце, Зана. Дзяўчына — агонь! Так і трэба.

Дыдзіс

Не сказаў бы, што так трэба. Дужа волю рукам дае! Анда толькі рагоча.

Улдыс

Маці і хоча мне тую ўсватаць, я табе аддаю. Пачакай жа яшчэ ты, сарамяжлівая. Не можа вочы паказаць, я табе адкрыю

не толькі вочы. Што ёй да гэтага хлапчука! Калеку глядзіць яна, як дзіцяня.

Дыдзіс

Знайшоў прычыну журыцца, што дзеўчанё адразу не абвілося каля шыі, што іншага яна нявеста.

Улдыс

Што мелеш? Іншага нявеста? Малога таго блазнюка, што кульгае? Памыляешся, у яе розуму болей!

Дыдзіс

Вымеры дзявочы розум: у той болей, у той менш! Чаму ім не ісці за мяне? Ну дзе ж тут розум? Хіба толькі Анда мудрая? Ды пра гэта я маўчу, а ты шалееш таму, што вось адна не йдзе табе ў рукі. А можа і сапраўды хітруха гэтая цябе зачаравала?

Улдыс

От я ёй пакажу.

Дыдзіс

Ці ты ў яе, мой друг, не закахаўся?

Улдыс

Ат, пустабрэх; яе здабыць мне трэба; ты слаба кеміш.

Дыдзіс

Хоць так не так, не будзем ператакаваць. Тады дай мне яе; хоць сірата, аднак дадуць такі-сякі пасаг.

Улдыс

Згінь, ёлупень! Прапіў ужо свой розум. Праклятая!

**Д ы д з і с**
От справа...



Уваходзіць **О р т а**.

**О р т а**
Ну, п'янчуга-валацуга!
Што цябе ганяла полем,
Хмель вывейваў з галавы?

**У л д ы с**
Сціхні, кляча, што ты знаеш!

**О р т а**
Больш забыла, чым ты знаў.
Што ты бегаеш без толку?
Я скажу...

**У л д ы с**
Скажы мне! Выпі!

**О р т а**
Выпі, выпі — толькі й знаеш.

**У л д ы с**
Ну не пі, мне будзе больш.

**О р т а**
Што ж, магу я і не піць.
Болей п'еш — далей знікае
Тая, што паўсюль шукаеш.

**У л д ы с**
Дай яе! Плачу адразу!

**Д ы д з і с** *(злосна)*
Грошы! Ну, тады знікаю.

Выходзіць.

Улдыс. Орта.

Орта

Брацъ за грошы, брацъ сілком,—
Так на кірмашах махлююць!
Хлопча, ласкаю ўлагодзь.

Улдыс

Мне прасіць? Такую пстрычку!
Бачу я, ты кпіш з мяне!

Орта

Што, не дазваляе гонар?

Улдыс

Што к ёй так калека ліпне?

Орта

Што, цябе хлапчук спалохаў?

Улдыс

Што ён дзьме ўсё ў гэту дудку?
Сіл няма ўжо слухаць болей.

Орта

Што ты кідаешся зверам?
Грэшна крыўдзіць сіроцінку.
Сорам, слаўны даўгавінец!
Спадабаў нізаць дзяўчат,
Як каралінкі на нітку,—
Больш нічога знаць не хочаш.
Словам дзеўчынку прылашчы.

Улдыс

Страшна колецца дзядоўнік.

О р т а

Досвіткам да роснай ружы
Трэба ціха дакранацца.
Любіць дзеўчына ўгаворы,
Яшчэ больш сіротка любіць!
Ты тры восені праездзіш,
Каб прывыкла сірацінка.

У л д ы с

Што са мной дзяўчынка робіць,—
Людзям скажаш, не паверадь.

О р т а

Робіць што табе дзяўчына?
Ці ж пчала пакрыўдзіць дуб?

У л д ы с

Ей усё як ёсць прыпомню.

О р т а

Не хваліся, перш здабудзь.
Піць пакінь, спакойным будзь.

У л д ы с

Буду ўжо.

О р т а

Тады чакай.

Выходзіць.



У л д ы с *(адзін)*

Воўча ягадка, дзяўчынка,
Ах, разучка-асачынка.
Як маланкай бліскануда

Дзёрзкім позіркам з-пад хусткі,
З-пад трох белых пакрывалаў!
Гэтак толькі залатоўка
Ноччу сіняю гарыць.
Як вавёрачка на ліпу
Скочыла, хвастом махнуўшы,
Як арэх, кусала палец.
Ах, мне б тую зараньку!
Зоры змёў бы ўсе як ёсць,
Ў Даўгаву сыпнуў, як смецце.



Уваходзіць З а н а са святліцы.

З а н а

Улдыс родны, дзе ты быў?
Столькі я цябе шукаю.
Што бяжыш ты ў поле, ў бор?
Як дзівак.

У л д ы с

А што табе?

З а н а

Досыць жартаў, маці ў гневе.

У л д ы с

Хай злуе, мне толькі смешна.

З а н а

Табе жарты — мне бяда.
Усё гатова да заручын,
Смажаць, вараць цэлым домам;
Нас пабраць спяшае маці,
А жаніх бяжыць у лес.

Улдыс

Мая воля. Маю час.
Ад мяне ўжо не збяжыш ты.

Зана

Што ўцякае — даганяеш,
Што сама прыйшла — счакае!

Улдыс

Маці й так цябе аддасць.

Зана

Бачу, хочаш пасварыцца.
Ах, як сэрца мне баліць!
Як тады ўсяго не ўбачыла?

Улдыс

Можа лепей возьмеш Дыдзі?

Зана

Што ты, Улдыс, проста сорам!
На другую заглядзеўся.

Улдыс

Ты не трызніш? Заглядзеўся
На малую парабчанку...

Зана

І знайшоў, на што глядзець?
Дзеўчанё, як мышанё,
Што з яе за гаспадыня?
Ці не так, мой любы Улдыс?

Улдыс

Як жа мог я заглядзецца,
Калі добра не разгледзеў?
Шыецца ў куток са страху,
Точыцца ў зямлю, як крот,

Каб ніхто знайсці не мог.
Я-то ўжо яе знайду.

З а н а
Любы мой, пакінь яе!
Ці табе я знелюбела,
Наш апошні дзень настаў?

У л д ы с
Ты мне міла, ты мне люба.

З а н а
Ну дык пойдзем заручацца!
Анда йдзе ўжо клікаць нас.
Ты мяне не засмучай,
Час табе за розум брацца.

У л д ы с
Засмуціць хачу я тую,
Што пасмела мне пярэчыць.



А н д а яшчэ за сцяной.

А н д а
Зана, гу! Зана, гу!
Зачакаліся заручыны.

Уваходзіць.

Ах, дык вось дзе ён, віноўнік!
Значыць, будзе пір гарою.
Што ж, хутчэй цішком цалуйцеся,
Неўзабаве — і пры ўсіх.

З а н а
Ты чаго, сястра, прыбегла?

**А н д а**

Адвярнуся я — цалуйцеся!

Зана хоча абняць Улдыса, той адхінаецца.

**З а н а**

Што? Адну яе?

**У л д ы с**

Маўчы!

**А н д а**

Раптам стала хлопцу страшна?
Барбу лапаць не баяўся.

**У л д ы с**

І цябе не пабаюся.

Ловіць яе.

**А н д а**

Палавіў бы, ды сама я
Не ўцяку ад жаніха,
Лепш схаваюся пад пахай.

Падбягае да яго пад руку.

**З а н а**

Гэта мая засень, Анданька.

**А н д а**

Так, твая, але пільнуй,
Не ўпільнуеш — я вазьму.
Палахліўцы не аддам,
Не ўступлю ёй нізавошта.

**У л д ы с**

Дык чаму ж ты той не ўступіш?

Анда

Возьмеш Барбу, Дыдзіс — Зану,
А тады дзе мой жаніх?

Зана

Улдыс, не злавіўшы Барбу,
Кажа, сам яе не хоча.

Улдыс

Я злаўлю яе, не думай,
Адплачу спаўна ўпірлівай!

Анда

Мы, сястрычка, дапаможам.
Бач, за кім пагналася.
Даўгавінец толькі наш!

Улдыс

Гоніцца? Бягом бяжыць.

Анда

Што? Бяжыць? Эх, даўганогі!
Розум карацей за чуб:
Уцякае, каб прывабіць.

Зана

Любы, досыць!

Улдыс

Пачакай!

Анда

Гатыньш ёсць, дык мала ёй.

Улдыс

Той калека — толькі жарт.

Анда

Добры жарт,— з цябе смяюцца.

Улдыс

Што, з мяне? Чакай, галубка...

Анда

Стой, пакажацца яшчэ.
Хітрыкі ты ўсе пазнаеш,
Для прыліку тоіць вочы.
А сарві хусцінку — ўбачыш:
Сораму пад ёй няма.

Зана

Што ты? Добрая яна.
Што зрабіць ты з ёю хочаш?

Анда

Добрая. А жаніхі?

Зана *(да Улдыса)*

Любы, любы, пачакай!



Уваходзіць Орта з боку саду.

Орта

Во куды дзяўчаты зніклі,
Робіцца сама работа!
Прыраслі да хлопца дочкі,
Быццам мох к ствалу дубочка.

Зана

Ах, Ортанька, хвілінку...
Ці ўжо маці кліча нас?

Орта

Маці кліча — хто пачуе?
Хлопец за сцяной — прыбеглі.

Анда

Нешта ты прыйшла не з кухні,
Клікаць быў табе загад?

Орта

Маці скажа, пачакай.
Дастракочашся, сарока,
Прытрымай язык-мянташку!

Анда

Каб сваім ты памянціла.

Зана

Пойдзем, Анда.

Анда *(да Орты)*

З намі й ты!

Орта

Даганю.

Анда

Варона рада,
Што сарока паляцела.

Орта

Ой, сарока страката́ла,
Сакаліхай быць жадала:
Доўгі хвост, а крылаў мала,—
Разам не змагла ляцець.

Анда

Куранё змагло малое.

Улдыс *(да Орты)*

Дыдзіс дзе? Хай для заручын
Прынясе яшчэ віна.

Зана і Анда выходзяць.

Улдыс. Орта.

Орта
Я паўсюль шукала шчыра.

Улдыс
Барба дзе?

Орта
У ягадах.

Улдыс
То хадзем.

Орта
Чакай, хлапчына!
Цябе ўбачыць, уцячэ.
Я гукну: «Хадзі сюды!»
Ты затоішся тым часам.
*(Гукае.)* Адгукніся! Барбінька, гу!

Голас Барбы
Гу, гу, ягады збіраю.

Орта
Колькі назбірала ягад,
Столькі і нясі гасцям!
Добрых жаніхоў частуй.

Голас Барбы
Хто там ёсць?

Орта
Нясі, адна я.
Спяць яшчэ ўсе.

Голас Барбы
Добра, зараз.

Орта выходзіць.

●

Улдыс. Уваходзіць Барба.

Улдыс

Бач ты, дзе знайшлася Барба,
Мне насустрач выйшла шчасце!

Барба

Ой! Хто тут? Не бачу нешта.
«Я адна»,— казала Орта.

Улдыс

Гэта Улдыс, я. Не бойся,
Не ўцякай, мая заранка!

Барба

Божухна!

Выпускае кошычак з ягадамі.

Улдыс

Ну што, сінічка!
Ягады рассыпала...

Барба хоча бегчы.

Што бяжыш? Застанься тут.
Што ты скажаш маці, сёстрам?
Хлопца ў лесе спакушала!

Барба

Ой! Дзе Орта?

Улдыс

Ну, я сам
Памагу табе сабраць.
Ты суцеш ласкавым словам.

Барба

Клікну Гатыня, не трэба!

**Улдыс**

Клікнеш Гатыня, я — Анду...

**Барба**

Засмяе мяне; не кліч!

**Улдыс**

Гатыня не кліч — не трэба.

**Барба**

Ой, бяда!

**Улдыс**

Што ён табе?
Толькі пра яго гаворыш.
Удваіх мы пойдзем разам,
Люба-міла пагаворым.

**Барба**

З Занаю нагаварыўся?

**Улдыс**

Ці табе не даспадобы?
Ці не я — дубочак гонкі?
Ці не чырванеюць шчокі?
Што ўцякаеш, як ад воўка?
Я прыйшоў прасіць рукі.

**Барба**

Што маёй рукі прасіць...
Прасі ў гаспадарскіх дочак.
Хто злічыць усе сумее
Зоркі, што прайшлі праз неба,
І карэнні — праз дарогі,
Той засватае мяне.

**Улдыс**

Я злічыць усе сумею!
Ягады на доле — зоркі —
Я злічу і сабяру.

**Барба**

Хітрасцю падшыт жаніх.

**Улдыс**

Ну, цяпер я даспадобы?
Орта ж кажа, што даўно!

**Барба**

Орта? Ах, які мне сорам!
І куды цяпер схавацца?

Наважылася кінуцца ў дзверы, у бок кухні, але, перадумаўшы, бяжыць у бок саду.

**Улдыс**

Не бяжы! Бо Анду клікну...
Дык магу прасіць рукі?

**Барба**

Ты не жартуй, хлапец!
Я — няшчасная сіротка.

**Улдыс**

Сірата — дачушка шчасця.

**Барба**

Дзеўкаю хачу пабыць:
Хай яшчэ парасцвітаюць
Ружы шчок нецалаваных,
А слязам надыйдзе час.

**Улдыс**

Ружы ўбачыць мне дазволь.

Хоча зняць хустку з яе галавы.

Б а р б а

Той адзін-адзіны ўбачыць,
Хто маім ратаем будзе,—
Парабчанкі любы сын.

У л д ы с

Грошы маю, ў чым тут грэх?

Б а р б а

Страшна іх.

Ідзе прэч.

У л д ы с

Не йдзі яшчэ!

Б а р б а *(дзёрзка)*

Ягады ўжо ўсе сабраны,
Можам зараз клікаць Анду.

У л д ы с

Ах, дзяўчынка-ганарліўка!
Ну дык пойдзеш? Ці не пойдзеш?

Б а р б а *(рагоча)*

Хай хлапец зялёным шоўкам
Апаўе маю святлічку,
Серабром падлогу ўсыпле,—
Ведай, замуж не пайду.

У л д ы с

Дык скажы, чаму?

Барба хоча пайсці.

Ягады! Не йдзі!

Б а р б а

Што ягады?

**У л д ы с**

Я магу іх зноў рассыпаць.
Скажаш?

**Б а р б а**

Я цябе баюся.

**У л д ы с**

А за што?

**Б а р б а**

Нашто ты п'еш?

**У л д ы с**

Кіну піць, калі так прыкра.
Піў, каб гнеў свой астудзіць.

**Б а р б а**

Я тваёй баюся сілы:
Узяць можаш Зану, Анду.
Мне ж праціцькала сінічка:
Хто за Даўгаву пакліча,
Той і ў вір мяне штурхне.

**У л д ы с**

Хай сініца не вяшчуе,
Свой яна не знае лёс:
Паляціць па ветру пер'е,
Толькі ўдарыць горды ястраб.
Ты ўпартая, я — ўпарты.
Мне казалі, ты хітруха,
Ты хітрыш, хаваеш вочы,
Водзіш ты за нос мяне.
Ягады вось!

Рассыпае ягады.

**Б а р б а**

Гатынь, ой!

Улдыс

Анда, Зана, дзе вы ёсць?!
Гэй, сюды, для ўсіх забава!



Паказваецца каля дзвярэй, што выходзяць у сад, Гатыньш, але знікае, калі ўваходзіць Орта з боку саду.

Орта *(да Барбы, сілком трымаючы яе)*
Хто пакрыўдзіў? Што ўцякаеш?

Барба *(праз слёзы)*
Не трымай мяне! Пусці!
Праз цябе на сэрцы смутак.

Орта
Дзетухна! Што тут такое?

Барба
Ты паклікала прыйсці?
«Я адна»,— ты мне сказала.

Орта
Я ж хацела як найлепей.
Зорачка, чаго ж ты плачаш?

Улдыс
Кпіць з мяне, а потым плача.

Барба
Я не плачу, я пайду.

Орта *(да Улдыса)*
Кінула для згоды іх,
А яны давай спрачацца.
Хто так ягады рассыпаў?

Маці ўсыпле, так і знай,—
Ах, мая непаслухмянка!

Барба
Ой, што кажаш?! Дай дарогу!



Уваходзіць, крадучыся да садовых дзвярэй, Гатыньш.

Гатыньш *(ціха)*
Барбінька, хадзі, не слухай!
Давялі да слёз цябе.

Барба
Што прыйшоў?

Гатыньш
Ты ж клікала.

Барба
Ягады тады збяры.

Орта *(да Гатыня)*
Ты чаго прыйшоў? Што трэба?

Гатыньш выходзіць.



Орта
Барба, стой!
*(Да Улдыса, трымаючы Барбу за руку.)*
Твая віна!
Ты яе спалохаў раптам!

Улдыс
Вінават: цябе паслухаў,
Хітрай дзеўчыне паверыў,
А ў яе другі наўме.

**О р т а**

Ты лухту пляцеш, хлапчына!
Што рукі не просіш чэсна?

**У л д ы с**

А мяне прагнала чэсна?
Горкім п'яніцам назвала...
Не пабачыш ты гасцінца!

**О р т а**

Што плявузгаеш, хвалько?
Я не знаю, што ў вас тут?
*(Да Барбы)* Што ты, Барба, нарабіла?

**У л д ы с**

Я ўжо вызнаю як след,
Што ў вас тут за таямніцы,
Вочы тоіце чаму вы.
Ганьбу мне дала дзяўчына,
Гэта я не спадабаўся?!
Не дабром, дык злыбядою,
А маёй нявестай будзеш.

**О р т а**

Ах ты, ёлапень, п'янюга!
Ці ж бярэ дабро хто ліхам?..
Ты не просьбаю, а грозьбай?

**У л д ы с** *(кліча)*

Зана, гу! Анда, гу!



Уваходзяць **З а н а** і **А н д а**.

**У л д ы с**

Сум прагнаць сюды хадзіце!

Анда

Тут мы, матчыны дачушкі,
І гарэлкі ў нас багата.

Улдыс

Мы вяселейка згуляем,
Я сабе бяру нявесту.

Анда

Людзі добрыя, згуляем,
Хадзі, Барба!

Барба

Не хачу я.

Анда

Ліхадзеі не гуляюць!
Ці ты ўпотайкі гуляла?
Ягады па ўсёй падлозе.

Уваходзяць Дыдзіс, маці і людзі.

Дыдзіс

У бакі! Дарогу мне!
Я нясу гарэлкі мора.

Нясе гарэлку.

Анда

Мы вяселейка гуляем.

Маці

Ці ж веселле так гуляюць?
Людзі добрыя, хадзіце,
Чаркай сэрца саладзіце!
Маладых нам віншаваць,
Шчасця, долі ім жадаць!

Барба наважылася пайсці.

Барба, ты куды? Чакай!
Маладых не павіншуеш?
*(Да Заны.)* Ну, хадзі, дачушка, ўпоплеч
Стань са стройным жаніхом.

З а н а *(ціха да Улдыса)*
Любы, кінь хоць зараз жарты!

У л д ы с

Жартаваць мне хочацца,
Покуль я халасцякую.
Адплачу спаўна ўпірлівай.

А н д а *(да маці)*

Мама, пагуляць дазволь,
Покуль пад вянком дзяўчына.
Ты ж сама любіла ўцехі;
Толькі хітрым злосць да твару.

М а ц і

Хто свавольніц утрымае?..

А н д а

Дыдзіс будзе шаферам.
Я ў яго за шаферку.

У л д ы с *(да Анды)*
Дык нявесту ўгавары мне.

А н д а

А якую?

У л д ы с

Што не йдзе.

Д ы д з і с *(ціха да Улдыса)*
Не жартуй над сіратой.

**Улдыс** *(ціха)*
Сам пабачыш — не жартую.
*(Да Барбы ўголас.)* Да мяне хадзі!

**Анда**
Ну, йдзі!

**Барба** *(адпіхвае Андзіну руку, да Улдыса)*
Я хацела ўсё як лепей,
Больш не буду: забулдыга!
Лёгка здзекавацца з мяне,
Бо няма каму ўступіцца.

**Улдыс**
Не жартую — гэта праўда:
Быць табе маёй нявестай!

**Барба**
Што ты злосна так жартуеш?

**Улдыс**
Ты ж адмовіла сама!
Не дабром вазьму, дык ліхам,
Я цябе здабыць павінен!

**Зана**
Улдыс! Улдыс! Гэта жарт?

**Улдыс** *(да Заны)*
Дай спакой мне! Адчапіся!

**Зана**
Не пакіну! Не пакіну!
Улдыс, што са мною робіш?

**Улдыс**
Дыдзіс, ты не суцеш.

Д ы д з і с

Ну не плач, галубка, што ты?

М а ц і

Зана! Зана!

А н д а

Памаўчы!

Б а р б а *(да Улдыса)*

Згінь!

*(Да Заны, набліжаючыся.)* Не плач, мая сястрычка!..

У л д ы с *(да Барбы)*

Падыдзі! Ну пацалуй,
Гаварыць калі не хочаш!

Б а р б а *(ускрыквае)*

Гора мне, ой!



Уваходзіць Г а т ы н ь ш, які стаяў за дзвярыма.

Г а т ы н ь ш *(ускрыквае)*

Барбінь, ой!

У л д ы с

Хто крычыць тут?

А н д а

Паглядзі ты!

У л д ы с *(да Барбы)*

Бачыш, твой прыйшоў заступнік!
Ён ад жартаў абароніць.

**Ц ы е п а** *(да Гатыня)*
Што прыпоўз?

**О р т а** *(таксама)*
Зноў чорт прыгнаў!

**А н д а** *(таксама)*
А свіней хто пасвіць будзе?

**М а ц і**
Хопіць! Хопіць!

**Д ы д з і с**
Проста смех.

**У л д ы с** *(да Барбы)*
Ну, не жарты, гэта праўда:
Пацалуй жа, будзь маёю!
Скінь з вачэй сваіх хусцінку.

**Г а т ы н ь ш**
Адпусці яе!

**О р т а**
Ты змоўкнеш?

**А н д а** *(да Улдыса)*
Скінь! Глядзі, якія вочы,
Быццам бы яна не спала
З Гатынем на свежым сене?!

**Б а р б а**
Божухна! Такія словы!

**Л ю д з і**
Сорамна перад людзьмі!

**О р т а**
Прэч ідзі, пляткарка Анда!

М а ц і

Орта, ты ўпікаеш Анду?

О р т а

Што ён за жаніх — калека?

Г а т ы н ь ш

Праўда ўсё. Яна мая —
Барбінька мая нявеста.
Не дазволю...

Л ю д з і

Ха, ха, ха!

Б а р б а *(да Гатыня)*
З глузду з'ехаў?

Г а т ы н ь ш

Ах, чаму?
Крыўдзяць жа яны цябе.

Л ю д з і

Ха, ха, ха!
І як не сорам!

А н д а

Сарамяжлівая, дзе там,
І вачэй не падымала,—
Падняла — на двух адразу.

У л д ы с

Ну і ну!

Ц ы е п а

Што я казала?

У л д ы с

Ха, ха, ха! Бач, палахліўка!

**А н д а** *(да Улдыса)*
Пакрывала скінь. Трымаем.

Хоча схапіць Барбу і трымаць.

**Ц ы е п а**
Ха, ха, ха. Мы патрымаем.

**Б а р б а** *(вырываецца ад жанчын)*
Пасаромся, даўгавінец!

**У л д ы с** *(да жанчын)*
Прэч, вароны, адляціце!
*(Да Барбы.)* Сорам — прэч, цябе здабуду.
*(Гледзячы на яе.)* Дзве сінюткія крынічкі,
Ружы ўнізе расцвітаюць.

Абдымае яе і сілком хоча пацалаваць. Барба вахінаецца хусцінкай і адпіхвае Улдыса.

**Л ю д з і**
Ха, ха, ха!

Улдыс зноў набліжаецца да Барбы смеючыся.

**Б а р б а** *(жаласна)*
Гоніш ты мяне ў труну!
Ты пачуй мяне, мамулька!

**У л д ы с** *(смеючыся)*
Не, ганю цябе ў свой човен!

Людзі смяюцца.

**Б а р б а** *(горда выпрастаўшыся, гнеўна да Улдыса)*
Адчапіся ты, нягоднік!
Слёзы — прэч! І просьбы — прэч!

За сябе сама ўступлюся:
Раз ты сораму не маеш,
Сорамам цябе зняслаўлю:
Я сама адкрыю вочы,
Каб ты ўбачыў, што пагардай
Да цябе гараць яны!

Яна сама зрывае хусцінку з галавы.

Людзі *(здзіўлена)*
Проста жах! Проста жах!

Орта
Дзетка, дзетка! Што ты робіш?

Барба ўскрыквае і падае ў непрытомнасці; Улдыс яе падхоплівае.

Гатыньш
Звер лясны! Знікай з вачэй!

Б'е Улдыса.

Людзі
Божа любы! Божа мілы!

Улдыс *(да Гатыня)*
Згінь! Трымай жа, Орта, Барбу!

Людзі
Будзе ліха! Ліха будзе!

Улдыс хоча перадаць непрытомную Барбу Орце, якая хутка падышла, і сам хоча кінуцца на Гатыня.

Орта
Як тут быць? Закрыла вочы!
Ногі падкасіліся. *(Да Улдыса.)*
Што, бугай, замнога сілы,
Дык прыбіць і хлопца хочаш?

Падымае Барбу з долу да сябе на калені.

Красачка мая, пралеска,
Што з табою мы зрабілі?

Улдыс *(ледзь стрымліваючы сябе, да Гатыня)*

Бі, смяльчак-хлапчук, мяне —
Гэтага я толькі варты.

Нахіляецца да Барбы.

Палахлівачка! Ўпірліўка!

Орта *(уздыхнуўшы)*

Вочы падняла — глядзіце!

Заслона.



Сад, дрэвы і кусты, надломаная ялінка. Праз дрэвы відаць Даўгава.

●

Цыепа, Орта, суседкі.

Цыепа

Барба, гу! Барба, гу!

Суседкі

Дзе ты ўжо даклічашся!

Орта

Барбінь, Барбінька, ах божа!

Цыепа

Ах ты, божа, хто падумаў бы, гэта ж трэба, столькі сораму нарабіла ўсім нам Барба!

Адна з суседак

Божа мілы! І вуглы не чулі, каб гэткай дзяўчына была.

Другая суседка

Сама жаніху паказалася, проста перад усімі.

Орта

Што ж, перамывайце костачкі! Зняславіць лягчэй за ўсё; вы толькі добрае казаць не ўмееце!

Цыепа

Ты ўжо маўчала б лепей! Не заступайся за нягодніцу, тады табе ўсю праўду Орта скажа. Саромся, Орта, плявузгаць гэтакае перад гасцямі!

Суседка

Ты гэта ўсё дарэмна, Орта; мы лепей да цябе аднесліся б. А ты што? Ганьба застаецца ганьбай, як ні выгараджвай! Сабе ты шкодзіш толькі.

Цыепа

Чым Орта сабе нашкодзіць? Яна як магла памагала гэтай дзяўчынцы,— ці ж не ведаем гэтага мы?

Орта

Брашы! Брашы! Благога што я нарабіла? Што я люблю сіротку?

Цыепа

А я прычым? Што расказаць мне? Ведаеш сама.

Суседка

Хоць я тут не была, ды чула жахлівыя рэчы, што сама раскрылася.

Цыепа

Але, хусцінку з галавы далоў.

Суседка

Як ёсць перад сватамі, нібыта на сенакосе!

Другая суседка

Што кажаш, сястра, як у час сенакосу? Дзе там, дзе там, як у лазні! Ха, ха, ха! Яна напілася.

Орта

Брашы, хлусі, мянці!

Цыепа

Лезла пішчом да жаніха. Ці можа брашу я, па-твойму?

Орта

Язык змяіны, язык змяіны; ад твайго языка змяя апруцішца.

Цыепа

Язык прыкусіла б лепей; лепей не брашы. Бо я скажу такое, што змоўкнеш адразу,

Орта

Што ты можаш сказаць; касавурына ты вірлавокая, ногі твае, як палазы, мазгаўня твая, як бязмен, бязмозглая!

Яна ідзе прэч.

Суседка

Проста смех, якія людзі! Што за словы! Гэтай Барбе праваліцца трэба праз зямлю ад ганьбы.

Другая суседка

Трэба кінуцца проста ў Даўгаву!

Орта *(яшчэ раз вярнулася)*

Хай паб'е языкі вашы ранамі за такія размовы! Хай захлынуцца той вадой з Даўгавы глоткі вашы!

Выходзіць.



Цыепа

От дзе ўедлівая баба. Не ўссыплеш солі ёй на хвост. Сама ж і тую Барбу з жаніхом тым зводзіла. І даўгавец таксама дабёр бабёр. Статны — толькі той і слава, жаніцца абяцаў з дзяўчынкай гэтай, пасаг у якой толькі мышы ды прусакі, ані бацькі, ні маці, голы падкідыш, падабраная невядома дзе.

Суседка

Вось і бедная сірацінка, гаротніца, а такое робіць — ні пры нас казана, ні пры вас чутана. Вывуджвае сабе жаніха багатага сваёю ганьбаю.

Цыепа

І з другімі хлопцамі круціць, і ў каго ж удалася! Неспадзеўкі — дзіця ў дзеўкі! Толькі нельга казаць, Орта можа пачуць.

Зноў аблае за праўду. Ад гаспадынінай дачкі, ад Заны, жаніх адмовіўся; а смяг ён па ёй даўно. Як было, хто там знае; сустракаліся ўпотай. Насмяяўся над ёю зараз. Але гэтая Зана такая гультайка, што, як нырка, салам заплыла. Ну а маці ад злосці не ведае, што рабіць; Барбу тую ў зямлю б загнала, калі б не шкадавала парабчанкі, што робіць за кавалак хлеба. Конь бы выцягнуў ногі даўно на Барбіным месцы.

Суседка

Вунь яно як! Цішэй вы, ідзе нехта, ці не яна?



Уваходзіць маці.

Маці

Стаіце ды пляткарыце! Валацужкі той няма?

Цыепа

За што лаеш нас, матухна? І без нас ёсць каго! Не пра тое мы зусім; разумеем мы, што крыўда сэрца тваё захлынула. Да ўсіх суседзяў пагалоска дакацілася, супакоіцца не могуць — пасміхаюцца ды кпяць. Шэльма, а ты яе падабрала, зліталася.

Маці

Прыгрэла змяю на сваіх грудзях. Вось мне і адплата.

Цыепа

Гэткія ўжо людзі; яшчэ нягоднікам памагаюць, вучаць, наколькі могуць, зводзяць злоснымі языкамі.

Маці

Дзе гэта прапала Орта? *(Гукае.)* Орта! Орта!

Голас Орты *(адгукаецца)*

Гу! Гу!

Цыепа

Ведае, што натварыла; твайго чэснага гневу баіцца. Тут была, ты падышла — яна прапала.

Маці

Няхай на вочы не паказваецца, ёй болей тут не месца.



Уваходзіць Орта.

Орта

Ну, чаго?

Маці *(паўтараючы)*

«Ну, чаго?» Бач ты! Калі зараз жа яе не знойдзеш, гэтую Барбу, і не ўгаворыш, каб адмовілася ад даўгавінца, болей не прыходзь сюды.

Орта

Дык сама ж яго Барба не хоча.

**Мацi**

А, не хоча! Фокусаў не знаю вашых? Тады скажы даўгавінцу, хай пакіне Барбу; грэх будзе такога выпусціць...

**Орта**

Скажы ветру, хай не прыганяе даўгавінцаў човен.

**Мацi**

Ты звяла іх, ты і разводзь або не трапляйся на вочы.

**Орта**

Як жа мне развесці тых, каго зводзіла шчасце?

**Мацi**

Ну, тады ідзі да свайго шчасця і забудзься, як адчыняюцца дзверы ў маю хату.

**Орта** *(пачынае плакаць)*

Ой, бяда мая, ой, гора! Паўвека пражыла — табе служыла, і ты мяне праганяеш?

**Мацi**

Сама знаеш: рабі, што сказана, альбо ідзі!

**Орта**

Я не магу рабіць, што ты сказала, нядобра так; сама пайду я лепей.

Выходзіць.

●

Цыена

А тыя лішнія градкі каму застануцца? З сабою ж яна іх не возьме. Ты павінна нягодных караць, а добрым шчодра плаціць. *(Да суседак.)* Ці не так?

Суседкі

Праўда, праўда.

Маці

Добра, добра, будзем бачыць.

●

Уваходзяць Анда і Зана.

Анда

Мама! Дзе ты ходзіш?
Тую пстрычку ўсе шукаюць.
І куды надоўга збегла?
Ды сама ўжо скора выйдзе,—
Хай за косы пацягаюць.
Лепш сватоў пачаставаць.

Зана *(лашчыцца да маці)*

Мама! Любая мамулька!

Анда

Як дзіця, на помач клічаш.

Маці *(да Анды)*

Што ты? Што? Бяда застала.

Анда

К жаніху так лашчыся,
Дык хутчэй цябе ён возьме.

**З а н а**

Ганьба! Сорам! Дзе мне дзецца?

**М а ц і**

Ну не плач! Як памагчы?
Трэба ўсё абмазгаваць.
Не дазволю кпіць з цябе.

**З а н а**

О мой дзень, мой страшны дзень,
Скочу проста ў Даўгаву!

**А н д а**

Проста даўгавінцу ў рукі.

**М а ц і** *(да Заны)*

Што мянціш ты недарэчы!
Не рабі мне ганьбы, дзетка!
*(Да суседак.)* Што ўтарапіліся, сталі,
Сэрцы цешыце бядой!

**С у с е д к а**

Суцяшаць цябе прыйшлі.
Раз ты так — то будзь адна!

Выходзяць.



М а ц і, Ц ы е п а, З а н а, А н д а.

**М а ц і**

Зананька, хадзем у хату!
Супакойся, прыбярыся,
Словамі ўлагодзь, прылашчы.

**Ц ы е п а**

Сарамяжлівая, дзе там!
Гаварыць бы гэты словы

Цвыркуновым галаском.
Язычком мядовым.

**Зана**

Пойдзе Анда.

**Анда**

Я сама;
Для сябе свайго даб'юся.

**Цыепа**

Можа мне сказаць, галубка?

**Анда**

Лепш за ўсіх бы Дыдзіс быў,
Ён бы друга ўгаварыў.
*(Кліча.)* Дыдзіс, гу! Хадзі сюды!

**Маці**

Ну і ўпарты даўгавінец,
Быццам сам Стабураг.
Лепш сагнуць нам Барбу зараз,
Як лазіцу ніцую.

**Анда**

У гусятнік пасадзіць
На тры дні і на тры ночы —
І сказаць: рака глынула.



Уваходзіць **Дыдзіс**, засмучаны і пад хмелем.

**Дыдзіс**

Любенькія, выручайце!
Як угаманіць мне Улда?

**Маці**

Гавары, хлапец, ды думай,

Улагодзь як-небудзь друга,
Хай мне сораму не робіць,
Хай дачкой не грэбуе.

Анда

Хай ён возьме нашу Зану;
Друга добра ўгавары.

Дыдзіс

Улагодзіш, угаворыш —
Ён зусім не чуе слоў,
Сеў на пень, бурчыць пад нос.
Падышоў з віном любімым —
Мне заліў увесь каптан!
З гора так набраўся сам —
Ногі ледзь перастаўляю.
Ён сказаў: не возьме ў рот
Ані сёння, аніколі.
Як угаманіць мне Улда,
Брата роднага па чарцы?
К д'яблам Барбу, к д'яблам Зану!
Вы, дзяўчаты, загубілі
Удалога даўгавінца.

Плача.

Маці

Вось як нам паможа гэты.

Дыдзіс

Як мне жыць цяпер, самотнаму?
Белы свет цяпер не люб.

Анда

Жонку возьмеш — будзеш жыць!

**Д ы д з і с**

Ажаніцца — утапіцца:
Болей свет мне знелюбее!

**А н д а**

Мяне возьмеш — сонца ўзыдзе.

Бярэ яго за руку і выводзіць.

**Д ы д з і с**

Як без Улда браць мне жонку?

Абое выходзяць.



**М а ц і**

Анда праўду гаварыла,
Барбу ў хлеў сілком заціснем.
Не даваць ні піць, ні есці!
Зробіцца яна шаўковай.

**З а н а**

Ды адвесці як далей.

**М а ц і**

Бо да жаніха ўцячэ.

**З а н а**

Прысягне, дык не ўцячэ.
Сэрца ў Барбы — воск лагодны.

**М а ц і**

Лепш за ўсё заперці ў хлеў,
Гэтак будзе спакайней.

Усе выходзяць.

Сцэна застаецца пустая, чуваць, як Гатыньш наігрывае ціха на жалейцы: «Сонейка, зайсці спяшайся...»

З'яўляецца Б а р б а, азіраецца навокал.

**Б а р б а**

Галасы людскія змоўклі,
Жаліцца жалейка ў Гатыня,
Ўсе замоўкнуць галасы,
Вочы ўсе заплюшчацца,—
Я тады спакой адчую.
Вочы коляць, словы рэжуць
Сэрцайка маё без жалю.

Спыняецца каля ялінкі.

Да цябе прыйшла паплакаць,
Бедная мая сяброўка,
Як сястрычкі мы з табой:
Ранішні, няшчадны вецер
І цябе й мяне зламаў.
Душы мы яму няслі,
Як званочкі лугавыя;
Ён схапіў рукой нахабнай,
Гнеў напоўніў нашы душы.

Прыслухоўваецца.

Што ты жалішся, жалейка?
«Сонейка, зайсці паспела.»
Тут адна я ў засені.

Адвярнулася.

Што вы мне — старыя словы?
Што ты, песня, колісь чутая?
Сэрца вяне, губы смягнуць,
Сорам паліць, як агонь:
Галаву б пакрыць хусцінкай,
Ды, сілком сарванай, болей
Ёй мяне не захінуць.

Адыходзячы ад ялінкі.

Бегчы, бегчы — не дагнаць мне,
Клікаць, клікаць — не даклікацца...
Ты, зямелька, расступіся,
Ты схавай мой стан дзявочы.

Яна прыпадае да зямлі. Чуваць ціхія гукі крокаў. Яна ўстае.

Хто яшчэ? Людскія вочы.
Ахіні мяне, ялінка.

Яна хаваецца за ялінку.



Уваходзіць Гатыньш.

Гатыньш

Барба, любенькая, Барбінь!
Голас твой пачуў здалёку.

Барба *(з-за ялінкі)*

Не хадзі тут, не глядзі!
Як твае трываюць вочы
Бачыць мой вялікі сорам?

Гатыньш

Я магу ўсё, я трываю,
Абняслаўлены найгорш
Быў яшчэ я ў лоне маці,
Я на свет прыйшоў калекам,
Сіратою ўзрос, табе ж
Я не быў ніколі прыкры.
Ты чысцей ад пены белай
Сінявокай Даўгавы,
Ты як першы промень сонца,
Што ў расе гарыць, дрыготкі.
Ганьбе не крануць цябе,
Хіба што пакрыўдзіць можна.
Раніць ястраб курапатку,
Рве казулю ў лесе воўк,—
Ты саромешся дарэмна,
Зненавідзела яго ты.
Як яго не можаш бачыць,—
Дык бяжы ад прыкрага.

Барба *(выходзіць з-з ялінкі)*

Не магу я ненавідзець.

Гатыньш

Ты не можаш ненавідзець
Ненавіснага прыблуду?

Барба *(зноў хаваецца)*

Вецер ранішні — прывабны,
Хоць зламаў маю ялінку.

Гатыньш

Небяспека ў злой красе,
А твая — дабро нясе.

Барба

Што ж я добрае зрабіла?
І красу абтрэсла сіла,
Як з расніц зіхоткі іней.
Гэта сіла — вецер ранні.

Гатыньш

Ты яго яшчэ ўсё любіш?

Барба

Так глыбока ў сэрцы ён,
Як на дне крутога яра
Ручаёк іскрыста-звонкі.

Гатыньш

Гора мне! Куды падацца?
Голуб не ўзляціць самотны.

Барба

Гатынь любы, добры Гатынь!

Выходзіць.

Гатыньш

Я не любы, я не добры,
Сэрца маё лютасць поўніць,
Як валлё цецерука
Вострыя каменьчыкі.

Барба

У тваім прыгожым сэрцы —
Веснавых бяроз пупышкі.

Гатыньш

Сам калека, сэрца плача,—
Ну якая прыгажосць тут?

Калі ён табе ўсё любы,
Значыць хустку без прымусу
Ты зняла, каб стаць ягонай.

Барба

Гатынь, божа мой! І ты
Верыш гэтым плёткам злым?

Ідзе за ялінку.

Гатыньш

Значыць, за яго выходзіш?

Барба

Ах, не, не! Ані за кога!
Дзецца мне няма дзе, толькі
Пад зламанаю ялінкай.

Іншым голасам.

А душа зусім другая
У тваёй жалейцы дрэмле;
Ты дыхнеш, яна пяе.

Гатыньш

Голасу няма ў жалейкі.
Трэба ёй тваё дыханне —
Не гучыць і не пяе.

Барба *(выходзіць зноў з-за ялінкі)*

Дык сыграй на развітанне,
Я дыханне аддаю —
У жалейкі будзе голас.

Цалуе яго ў галаву.

Гатыньш

Барбанька!

**Барба**

Ідзі!

**Гатыньш**

Не, разам —
Запяюць тады усе.

**Барба**

Адзін ідзі, ўсяму канец!

Уваходзіць **Орта.**

**Орта**

Што, селі разам зноўку?
Ялінка ахінула вас?
Хопіць вам дзяцініцца.
Час расстацца, кінуць гульні,
Барба, час нявестай стаць.

**Барба**

Мы рассталіся ўжо, Орта.

**Орта**

Гатынь, час хадзіць за плугам,
Пастухом свістаў даволі.

**Гатыньш**

Адсвістаў сваё, даволі,
Больш не жаліцца жалейка.

Выходзіць.



**Барба** і **Орта.**

**Орта**

Гэта добра, Барбалынь,
Што ты гульні кінула:

Твой жаніх цябе чакае,
Ён ад нецярпення злосны.

Барба

Як жа можа стаць мне мужам
Той, хто чэсць маю зняславіў?
Воч сваіх не падыму.

Орта

Што ж, найшла каса на камень.

Барба

Гэтакіх, як я, гавораць,
З ганьбаю бярэ магіла.
Прыйдзе смерць — я не вазьму
Сораму ў зямлю сырую.
Хай тады глядзяць мне ў вочы.

Орта

Так, дзяўчо, не пойдзе справа.
Лепей з хлопцам памірыцца:
Злы язык, а сэрца — не.
Дык сказаць, што ты ідзеш?

Барба

Не прыспешвай — дужа страшна.
Мову адняло ў мяне.

Орта

Трэба сёння ж як хутчэй;
Прамарудзіш — ліху быць.

Барба

Не прыспешвай. Абяцае
Ён табе гасцінец шчодры?

Той, хто шмат сяброўак мае,
Як любіць нявесту можа?
Кінуў Зану, мяне кіне.

Орта

Што не знаеш, не кажы.
Не гасцінец мне — бяду
Табе злыдні абяцаюць,
Хочуць Улдыса забраць.

Барба

Ортынь любая, не злуйся.

Орта

Сэрца за цябе баліць.
Пагражаюць табе злыдні.
Калі Улда не пакінеш,
Дык цябе звядуць са свету.
Гэтага мне б не дажыць.

Барба

Што ты, Ортынь? Што ты робіш?

Голас Улдыса

Барба!

Орта

Чуеш, кліча ён!
Ну, дык пойдзеш?

Барба

Не магу я.

Орта

Прыйдзецца мне ў свет пайсці.

Барба

Стой! Чакай! Ты адыходзіш?

Орта

Развітацца я прыйду.

Выходзіць. Барба хаваецца.



Уваходзіць Улдыс.

Улдыс *(адзін)*

Барба, Барба! Дзе ты ёсць?
Палахлівачка, выходзь.
Бач, не п'ю ні кроплі болей!
Бач, цябе я ціха клічу.
Адгукніся мне, пралеска!



Уваходзіць Зана.

Зана

Тут я, мой каханы Улдыс.
Так шукаеш, аж не бачыш.
Да цябе я з добрым сэрцам,
Да цябе сама іду,
Дзён былых мне свеціць сонца,
Сённяшняга хмар не помню.

Улдыс

Заніт любая, ідзі!
Сонца мне не свеціць болей,
Гэты дзень згасіў яго.

З а н а

Пацалункі не астылі,
Ну няўжо не помняць губы!

У л д ы с

Астудзіў іх пацалунак
Той, якога я чакаю.

З а н а

Што ж ты так мяне абразіў?

У л д ы с

Я кахання не абразіў,
Згасла ўсё, не ўспомню болей.

З а н а

Ды хачу цябе, хачу я!
Глянь, я для цябе прыбрана.

У л д ы с

Я тваіх не бачу ўбораў —
Слепіць сонца новае.

З а н а

Хай два сонцы тыя згаснуць,
Што цябе сляпым зрабілі!
Каб мяне ты ўбачыў зноўку!

У л д ы с

Хай сляпы я, хай відушчы —
Бачыць не хачу цябе.

З а н а

Але я хачу, мне трэба:
Раз твае не свецяць вочы,
Я згасаю, быццам вечар.

**У л д ы с**

Больш цябе не бачаць вочы.

**З а н а**

Ну, ты, хлопча, пашкадуеш!
Сапраўды, ты больш не ўбачыш,
Ручаямі хлынуць слёзы:
Як мяне не бачыш зараз,
Так яе не ўбачыш болей
Ані днём, ні цёмнай ноччу!

Знікае.



У л д ы с адзін.

**У л д ы с**

Ну, выходзь жа, палахліўка;
Дай тваё пабачыць вочы!
Тут жа ты — я добра знаю,
Не схавацца ад мяне.
Ну, выходзь, цябе пушынкай
На руках [illegible] панясу.
З ясных воч тваіх слязінкі
Ягадкамі пазбіраю.
Шолах лісця мне чуваць,
Гэта ў ім тваё дыханне.

Прыслухоўваецца.

Не змушай чакаць, ты чуеш?
Што ж не йдзеш, калі гукаю?
Я цябе вазьму сілком,
Як не хочаш добрай згодай.

Расхінае галіны.

Што ўздыхнула ты? Я чую.
Да мяне хадзі, ўпірліўка!
Твар свой белы не хавай,
Быццам кветка корань белы!

Злуецца.

Не злуй ліха, покуль ціха.
Хоць ты ў зямлю зашыйся,
З-пад зямлі цябе дастану!
Хоць ты ўзлезь на вершаліну,
Дрэвы ўсе павысякаю!
Хоць схавайся ты ў сузор'ях,
Зоры ўсе парассыпаю!

Голас Барбы

Ой!

Улдыс

Што стогнеш? Што з табой?
Як не выйдзеш,— абламаю
Кос даспелае калоссе.

Голас Барбы

Я не выйду — страх бярэ.

Улдыс

Упаду я тут з маленнем,
Разаб'ю свае калені,
Выкапаю яр глыбокі,
Толькі выйдзеш — упадзеш!

Голас Барбы

Ой, мне гора! Ой, бяда мне!

Улдыс *(пасля маленькай паўзы)*

Ну, сядзі — іду да Заны,
Покуль губы не астылі.

●

*Улдыс. Уваходзіць Барба.*

**Барба**

Улдыс, страшна мне,— я тут.

**Улдыс**

Барбанька, мой дзень пагодны!
Не спяшала, спакушала,
Як пралеска ў золкіх росах!
Падыму цябе да сонца,
Сонца — крэсла залатое.

**Барба**

Не чапай мяне, хлапчына,
Не асып пялёстак з краскі!
Галава вянком убрана.

**Улдыс**

Ты, як мята — кветка скрытная,
Хмеліш кожнаю лісцінкаю.
Ад мяне ты не хавайся;
Мы ўдваіх гайдацца будзем
Серабрыстай Даўгавай!

**Барба**

Улдыс, Улдыс,— цяжка мне.

**Улдыс** *(пяе)*

Ветрык, вей, гані жвавей!..

**Барба**

Гэты вецер вельмі страшны,
Ён зламаў маю ялінку.

**Улдыс**

Ты яліначку шкадуеш,
Аднаго мяне не хочаш...

**Б а р б а**

Шкадаваць? А ты мяне
Абкарыў, нібы ялінку.
Як расці цяпер гаротнай?

**У л д ы с**

Мы захутаем, абвяжам.

**Б а р б а**

Як захутаць, абвязаць?
Сэрцавіну зраніш — ссохне.

**У л д ы с**

Парасткі зазеляняюць.

Бярэ яе на рукі.

Зана, Зана! Маці, маці!
*(Пяе.)* Сам нагледзеў, сам жанюся,
Ў бацькі, маці — не пытаўся.



**З а н а** *(ячшэ за сцэнай)*

Улдыс мой, іду я, тут я.
Сэрцам чула, што паклічаш,
Што мяне ты не пакінеш.



Уваходзяць **З а н а**, **м а ц і**, **Ц ы е п а**.

**З а н а**

Ай! Што бачу? Што нясеш?

**М а ц і**

Гэта ж Барба.

**Ц ы е п а**

О мой бог.

**М а ц і**

Зноў прытомнасць страціла?

**У л д ы с**

Бачыце, мая нявеста!
Маці, дай дачушку гэту!

**М а ц і**

Ах, махляр, круцель, манюка!
Кірмашовы чмут, вясляр!
Ты мяне зняславіў, збэсціў,
Абсмяяў маю дачушку.

**У л д ы с**

Праслаўляю, падымаю
Дом твой ранішняю зоркай.

**З а н а**

Ой, мне гора!

**Ц ы е п а**

Не плач, Занінь!

**М а ц і** *(да Барбы)*

Вечарніца, вечарніца,
Закацілася сама.

**Б а р б а** *(саскоквае на зямлю з рук Улдыса)*

Маці, маці, пашкадуй,
Не віні нявінную.

Ці цябе не слухала?
З чэсцю я нашу вяночак!

Улдыс
Маці прыгажунь, паслухай,
Сірацінку ўзяць дазволь мне!

Зана
Барбу аддасі, матуля,
Ганьбы не перажыву я.

Маці
Гэта я табе дазволю
Над маёй дачкой смяяцца?
З чым прыехаў, з тым паедзеш,
Толькі вёслы ў рукі возьмеш.

Улдыс
Не прывык дарэмна ездзіць.

Зана
Ад абразы я сканаю...

Улдыс
Зананька, не плач, табе я
Хлопца дам, што па маёнтку
Будзе мець пад кожнай пахай.

Зана
Смейся, любы, смейся, мілы.
Ты не ведаеш, што ёсць,
Ты не ўведаеш, што будзе.

Маці
Дзетухна маё!

Цыепа
Сястрычка!

**Зана**

Не за Улдыса — ад ганьбы
Скокну ў Даўгаву з абрыву.

**Барба**

Бойся так казаць, сястрычка!

Хоча яе абняць.

**Зана**

Не сястра ты, не кранайся!

**Барба** *(цалуючы рукі маці)*

Мама любая, не злуй:
Не пайду за Улда замуж.
*(Да Улдыса.)* Ты заручаны з другою,
Не хачу я слёз чужых.

**Улдыс**

Пойдзеш ты, а ці не пойдзеш,
Ведай, я цябе вазьму.

**Барба**

Мой вянок яшчэ на мне.

**Улдыс**

Твой вяночак я здыму.

Зрывае з яе вянок і падвешвае да свайго пояса.

**Барба**

Гора мне! Куды мне дзецца?

Адбягае ад Улдыса.



Уваходзіць **Орта**, апранутая ў лепшае, у руках — клуначак.

**Улдыс** *(да Барбы)*

Ты куды? Хіба са мной?

О р т а

Барбінь, не ўцякай, не бойся!
Не ўцячэш ад свайго шчасця.
Хай ідзе наперад шчасце,
У руках нясе агеньчык,
Каб не сталі часам ножкі
У лужыну слёз.

Б а р б а

Ортанька, куды ідзеш?

Падбягае да Орты; заўважае, што яна апранулася ў лепшае.

Што ты так прыбралася?

М а ц і *(да Орты)*

Зводніца, чаго прыйшла?
Глянуць на благія справы?
Зараз можаш цешыцца:
Добры дом аганьбіла,
Дзеўчыну зняславіла.

О р т а

Здарылася, як хацела,
Так, як шчасце вешчавала.

М а ц і

Вон! Каб і духу не было!
Каб вачам цябе не бачыць!

Ц ы е п а

Зацкуём сабакамі.

О р т а

Ты замест сабакі будзеш:
Тут ты ліжаш, тут ты брэшаш.
Я пайду ўжо.

Кланяецца маці.

Дзякуй, маці,
Што паўвека спіну гнула,
Што палола, што малола,
Што ўволю працавала,
Сцерці пот не мела часу!
Для тваёй сястры шчырэла,
Ёй дачушку ўзгадавала,
Замуж аддаю сягоння.

Маці

Знай, хлуснёй манюкам плаціць,—
Вось і ўсё, што зарабіла.

Орта

За жывот парабкавала,—
Я жывот бяру з сабою.

Да Барбы, Улдыса і да людзей.

Будзь шчаслівай, Барбалыня!
Ты, хлапчына, даражы
Залатой сваёю краскай!
Ну, бывайце, людцы!

Барба

Орта!
З-за мяне ты ў свет ідзеш!
Я з табой!

Улдыс

Застанься тут!

Маці *(да Орты)*

Знікні! Згінь!

**О р т а**

Я ўжо іду.

**Б а р б а** *(да Улдыса)*

Ты вазьмі яе.

**У л д ы с**

Вазьму.

**О р т а**

Досыць напарабкавала.

Выходзіць.



Тыя ж самыя без Орты.

**Б а р б а**

Маці, Орту не гані!
Што капаць старую ліпу,—
Ссохне, падкапаная,
З-за мяне яна загіне.

**М а ц і**

Жаласніца, вон адсюль!
Згаварыліся вы ўсе
Сівізну маю аганьбіць,
Дык сама я вас зняслаўлю.
*(Да Улдыса.)* Ты, жаніх, хітрыў, мікіціў,
Як маю ўзяць парабчанку;
Загадаю ў хлеў заперці,—
Свету белага не ўбачыць!

**У л д ы с**

Каму ўзяць ты загадаеш?

Ён бярэ Барбу на рукі.

**М а ц і** *(да Барбы)*

Валацужка ты, блудліўка,
Тройчы трыдзевяць праклёнаў
На цябе нашлю, паганка,
Здохнеш — выкіну за хатай,
Не падыдзе воўк галодны!

**Ц ы е п а**

Вохці мне, што за праклёны!

**Б а р б а** *(упрошваючы)*

Плоць сваю клясці пабойся:
Я ж тваёй сястры дзіця;
А твая сястра сканала
Ад тваіх праклёнаў лютых.

**М а ц і**

Хай сканае ўсё прыроддзе!

**У л д ы с** *(абдымае Барбу)*

Маці гругання, вядзьмарка!

**Ц ы е п а**

Ястраба ліхога сын!

**З а н а**

Злы забойца курапатак,
Злодзей чэсці, я чакаю,
Ці з мяне ты здымеш ганьбу,
Ад яе адступішся?

**У л д ы с**

Сорам пакідаць сіротку.

**З а н а**

Тых шкада, хто мне спрацівеў?
Зараз пашкадуеш болей —
Вочы ёй павырываю.

Кідаецца на Барбу.

**Барба**

Зана! Зана! Ой, мне страшна!

**Улдыс**

Кінці прэч, дачка вароны.
Сэрца тваё воран вырве.

**Зана**

Лепей воран, ды не ты.
Лепей рыба з'есць мяне,
А не мышанё малое.
Улдыс!

Бярэ Улдыса за руку, цягне да сябе; той адступае.

**Улдыс**

Лепш не падыходзь!

**Зана**

Гора маё, дзень мой страшны.
Паглыні мяне, прадонне!

Уцякае прэч.



**Маці**

Занынь! Цыепа, бяжы!
Ах, паўзучы гад, забойца!
Прэч з двара з гадзюкай хітрай,
Прэч, імя табе — забойца!

**Улдыс** *(бярэ Барбу на калені)*

Сам нагледзеў, сам жанюся,
Ў бацькі, маці — не пытаўся.

Маці

Век табе не бачыць шчасця
Без благаславення маці.

Выходзяць абое — яна і Цыепа.



Барба *(вырываецца з рук Улдыса)*
Ой, мне гора! Зані! Зані!

Улдыс

Тут застанься!

Барба

Лепш пусці!
Не магу тваёю быць:
Праз мяне і праз цябе
Тры жыцці не могуць жыць.

Улдыс

У руках маіх — жыццё!

Барба

Орта знікла, Гатыньш знік.
А Заныня ў Даўгаве!
Лепей мне самой цяпер
Легчы ў цёмную пасцель.

Улдыс

Ляжаш ты ў вясельную!
Ну, хадзі, я панясу.

Падымае яе і нясе.

Барба

Пачакай яшчэ хвілінку:

Прыбяруся падвячэчна
І тады прыйду ў твой човен.

Выходзіць.

У л д ы с

Плыць нам на заходзе сонца
Даўгавай ружовапеннай.
*(Пяе.)* Ветрык, вей, гані жвавей
Човен зноў у Відземе!
Трэці дзень куляем чаркі,
Хай паскачуць нам баяркі!
Ліга! Ліга!

Заслона.



Жвірысты бераг Даўгавы. У чаратах стаіць прывязаны човен. На беразе складзены дровы і расстаўлены рыбацкія снасці. Вышэй — кустоўнік і дрэвы.
У глыбіні сцэны — відземскі бераг Даўгавы. Вечарэе.



Маці. Зана. Анда. Цыепа.

Зана сядзіць на беразе, узяўшыся рукамі за галаву, вакол яе маці, сястра і парабчанка.

Маці *(гаворыць ціха)*

Дзетачка, што тут сядзіш?
Вечарэе — жах наўкол.
Туманы йдуць з Даўгавы,
А вадзянікі — за імі.

Зана *(паволі)*

Тут мяне адну пакіньце!

Цыепа *(тахсама)*

Як застанешся адна?
Схопіць вадзянік цябе.

Анда

Буду я з табой, сястра;
Навучыць цябе хачу:
З Дыдзісам за дзень паспела
Згаварыцца, заручыцца.

Зана *(паволі)*

Дзе твой Дыдзіс?

Анда

Спіць у ложку,
Як устане — мужам стане.

Зана

Мой прачнецца — уцячэ.

Прыбягае Барба.

Барба

Занынь, Занынь, дзе ты ёсць?

Маці

Ты чаго прыйшла?

Анда

Вяслярка!

Цыепа

Човен свой глядзець прыйшла,
Ці заедзе ў Відземе.

Маці

Над бядой прыйшла смяяцца?

Барба

Ах, Заніту супакоіць.

Да Заны, абдымаючы яе.

Заніт, што скажу табе!

Зана

Што ты скажаш? Згінь з вачэй.

Адпіхвае Барбу.

На дарозе стала зноў?
Напярэймы весляру йдзеш,
Як паедзе ён дамоў?

Барба

Добрае скажу, сястрычка.

Зана

Што ты скажаш?

Барба

Адной толькі.

Зана

Нас пакіньце!

Маці

Гаварыце!

Выходзіць разам з Андай і Цыепай.



Зана і Барба. Здалёку чуваць, як Гатыныш іграе на жалейцы.

Барба

Мне шкада цябе, сястра.
Сэрца маё не трывае.

Я не стану на дарозе.
Кінуць лепш у Даўгаву
Ліха, чым свой стан дзявочы.

З а н а

Ці ты станеш, ці не станеш —
Я не скочу ў Даўгаву,
Я табе не дам яго!

Б а р б а

Ой, сястра, не зразумела:
Аддаю, бяры яго!

Пачынае ціха плакаць.

З а н а *(раптам узрадавана)*

Аддаеш, каб я ўзяла?
Ах ты, радасць, Барбалыня!

Абдымае яе.

Б а р б а *(ціха)*

Ты бяры яго! Трымай жа!

З а н а *(весела)*

Я вазьму!

Потым зноў засмучона.

Ах, як узяць?
Сам ён браць мяне не хоча!

Б а р б а *(з некаторай гордасцю)*

Я не буду — цябе возьме,
Як дамовіліся мы.

З а н а *(узрадавалася, потым зноў з трывогай)*

Барбінь, так. А як жа ты?

**Б а р б а**

Я знайду сабе мясціну.
*(З лёгкай іроніяй.)* Мышанё маленькае.

**З а н а** *(цалуе яе)*

Ты да дзеверыхі нашай
Лепш падайся ў парабчанкі!

**Б а р б а** *(з адчуваннем уласнай годнасці)*

Шыр зямлі не скінуць вокам,
А шырэй — гаспода мора:
Вецер — з мора, лівень — з мора,
Знойдзе месца й чалавек.
Лівень пойдзе ў падзямелле,
Вецер стоіцца за морам.

**З а н а**

Дык калі ж ты ў госці пойдзеш?

**Б а р б а**

Гэтай ноччу — хай не бачаць.

**З а н а**

Дам табе ў дарогу тры
Праснакі на малацэ,
Што пякліся для вяселля.

**Б а р б а**

Прымуць людзі добрыя,
Матухна-зямля накорміць,
А напоіць Даўгава.

**З а н а** *(зусім супакоеная, ускоквае)*

Ах ты, радасць! Што за радасць!
Што ж гэта я тут сяджу?
Ну, хадзем! Тут не сядзі!

Б а р б а *(садзіцца)*

Буду тут, не страшна мне.

З а н а

Не сядзі! Нядобра тут:
Вір грыміць, раве, як млын,
Камень чорным вокам водзіць...
Зерне трушчыць, пеніць пену,—
Зерняткам бы ўпала я,
Млын са страшным чорным вокам
На муку мяне б змалоў,
Рыбам з'есці выкінуў.

Адыходзіць ад Даўгавы і вядзе з сабой Барбу.

Страшна мне, зайшліся ногі.
Зноў сагрэюся — бяжым.
Ну, сястра, хутчэй адсюль.

Б а р б а

Не магу — астацца трэба,
Жаніху твайму сказаць,
Каб ішоў цябе ўзяць.

З а н а

Дабрыня — у добрым сэрцы!

Б а р б а

Ну, ідзі ўжо!

Зана цалуе Барбу і выходзіць.



Б а р б а адна.

Б а р б а

Я адна!
Маці вечара, прыйдзі,

Захіні барвяны полаг
З залацістымі махрамі
Над счарнелымі вірамі.
Ні адна душа на свеце
Хай майго не ўбачыць ценю;
Ані нават мой каханы,
Ані нават мае вочы.
І не будзе палахліўкі!

Набліжаецца да берагу.

Ты, чарот-шаптун, паслухай,
Ветру не шапчы, маўчы!
Хваля-хвілька, балбатуха,
Вечару не балбачы!

Дакранаецца да чоўна.

Чоўнік — шчупачок з Даўгавы,
Стой, у чаратах не дрогні,
Сяду я на тваю лаву,
Як садзіцца любы мой!
Залатыя ручкі вёсел —
Шчупаковы плаўнікі.
Я вазьму ў рукі вас,
Як бярэ адзіны мой!

Яна садзіцца ў човен і бярэ вёслы.

Аддаю я вёслам рукі,
Як рукам каханым дужым;
Сесці я спяшаюся,
Як міламу на калені!
Любы браў мяне на рукі,
Калыхаў і нёс далёка,
Быццам тая хваля чайку.

**Гайдаецца ў чоўне. Раптам:**

Ой, дзяўчына, што ты робіш?
Дык бяры ж усю мяне,
Мой каханы, мой адзіны!
Ты, з Даўгавы вадзянік,
Забірай мой стан дзявочы,
Забірай жыццё-слязінку!



**Добра ўцямнела. Жалейка загучала мацней і змоўкла. Уваходзіць Улдыс.**

Улдыс

Хто там гэта ў чоўне ззяе?
Ці там рыбка ўскочыла?
Ці там зорка збочыла?

Барба *(спалохана ўскоквае)*

Гора мне! Чаго прыйшоў?
Ты чаму падглядваў, слухаў,
Што схавала маці вечара?

Улдыс *(з выклікам)*

Што схавала маці вечара,
Вецер ранішні дазнаецца.

Барба *(сумна, з крыўдай)*

Маці вечара нясе
Дарагую ўзнагароду:
Пад вялізнай хусткай цемры
Аніхто не ўбачыць ганьбы.

Улдыс

Што я ўзяў — не адабраць,
Што знайшоў я — не схаваць.

Адшукаў бяглянку ў сховах,
Нескаронуую скарыў.

**Барба** *(спалохана ўскрыквае)*

Ой!

**Улдыс** *(працягвае в вынлінам)*

Адшукаў цябе — бяру я,
У мой човен маці шчасця
Прывяла цябе сама,
Мне ўручыла нездарма,—
Павязу за Даўгаву.

Набліжаецца да чоўна.

**Барба** *(спалохана)*

Пачакай! Пачакай!
Тое ты не абарві,
Што з трывогай ткала шчасце
На вячэрніх ціхіх кроснах!

Чуваць, як іграе жалейка.

**Улдыс**

Гэта мне! Чаму ж не ўзяць?

**Барба** *(гэтак жа спалохана)*

Не бяры сам, пачакай.
Абяцаў ты быць пакорным:
Ціха жаліцца жалейка,
Мне дазволь яшчэ паслухаць,
У апошні раз!

**Улдыс** *(больш рэзка)*

Ціха жаліцца жалейка,
Вецер з Даўгавы ўтрапёны:
Ты ў маім чаўне, мая ты,

**Барба** *(тансама больш рэзна)*

Я твая, яшчэ што хочаш?

**Улдыс**

Як мая, то пацалуй!
Нельга мне — прыйдзі сама!

**Барба** *(зноў спалохана)*

Ты не смейся, мне так страшна!
Смех твой паўтарае рэхам
З Даўгавінькі вадзянік.

**Улдыс**

Ты не хочаш цалавацць;
Голас твой хавае рэха
Сцішанай жалейкі ў садзе.

**Барба**

Ты аддай мне мой вяночак!

**Улдыс**

Дык выходзь і забяры!

**Барба**

Ну, тады заплюшчы вочы!
Не глядзі, як чырванею,
Не кранай мой стан рукамі!

Яна выскоквае з чоўна і набліжаецца да Улдыса.

**Улдыс** *(працягвае ёй вянок, адвязаўшы ад свайго пояса)*

На вянок тваёй вясны!

Барба ідзе паволі, дрыжыць.

Ах, бярозка Барбалыня,
Як дрыжыш ты, трапяткая,—

Не крану цябе, не бойся!

Барба, падышоўшы, адразу адыходзіць, але зноў вяртаецца.

Так заранaчка ад сонца
Уцякае — ў сінім моры
Прамяні свае хавае.

Б а р б а *(падышоўшы да Улдыса, які стаіць, заклаўшы рукі за спіну, дакранаецца губамі да яго шчакі, потым раптоўна)*

Ой!

У л д ы с

Ах, пяшчотнагубы ветрык!
Ля шчакі маёй гарачай
Крылкамі паварушыла,
Нібы пчолка днём пагодным.

Раптам чуецца высокі, рэзкі гук жалейкі. Гук абрываецца. Улдыс хапае Барбу і цалуе; яна ўскрыквае і бяжыць у човен.



У прыцемку паказваецца Г а т ы н ь ш.

Г а т ы н ь ш

Ой! Што робіш, даўгавец?
Ты нашто дзяўчыну крыўдзіш?!

У л д ы с

Хто ячпчэ? Чаго прыпоўз?

Б а р б а

Гатыньш, ты? *(Да Гатыня.)* Ідзі адсюль!

Г а т ы н ь ш

Голас твой пачуў здалёку,
Памагчы табе прыбег.

У л д ы с

Жарты весяляць у поўдзень,
Плача ў поўнач жартаўнік.
Чаўнару — свабодны бераг!
Жабяняці — прэч з-пад ног!

Накідваецца на Гатыня і валіць яго на зямлю.

Г а т ы н ь ш

Ліха мне, ой! Барбалыня!

Б а р б а *(ускрыквае)*
Ой! Што робіш, даўгавец!

Выбягае з чоўна да Гатыня.

У л д ы с
У чаўне сядзі! Куды?
Човен напіхну ў раку,
Завязу цябе дадому.

Б а р б а
Гатынь! Гатынь! Што з табой?

Яна застаецца, нахіліўшыся над Гатынем.
Уваходзяць З а н а, м а ц і, А н д а і Ц ы е п а.

З а н а
Улдыс! Улдыс!

А н д а
Я пачула голас Барбы,—
Што з дзяўчом? Чаго крычыць?

**Цыепа**
Так вішчала, галасіла.

**Маці** *(падыходзячы)*
Хто крычаў? Што тут было?

**Зана**
Улдыс, любы, толькі мой!
Ты, Барбіня, згінь з вачэй!

Палахліва туліцца да Улдыса.

**Анда**
Што крычыць? Не хоча йсці?

**Цыепа**
Дзе там згоніш кошку з ложка.

**Маці** *(да Улдыса)*
А куды прапала Барба?
Дзе яна? Жаніх, кажы!

Улдыс толькі змрочна маўчыць.

**Цыепа**
Хто там на пяску сядзіць?
Разам цяжка ўздыхаюць.

**Анда** *(падыходзіць да Барбы)*
Барба, ты? Ці ты не спіш?

Кранае яе за плячо.

**Барба**
Не чапай мяне! Адстань!

**Анда** *(глянула на таго, хто ляжыць)*
Гэта ж наш кульгавы Гатыныш!

**Маці**
Што было тут? Ну, кажы!
Ці вы можа анямелі?

Цыепа

Справы добрыя былі,
Калі ўсе маўчаць, як рыба.
Добрае гавораць смела.

Уваходзіць Дыдзіс, злёгку п'яны.

Дыдзіс

Улдыс, гу! Улдыс, гу!
Дружа, ці не едзеш ты?
Пачакай! Паедзем разам.

Анда

Ты паедзеш?! Будзеш тут!

Дыдзіс

Ты яшчэ не жонка мне,
Сам куды хачу паеду.

Анда

І не думай! Слова даў ты?

Дыдзіс

Слова, слова,— п'яны быў.

Анда

П'яны даў — трымай цвярозы!

Дыдзіс *(набліжаючыся да Улдыса)*

Улдыс, любы брат па чарцы,
Ну хоць слова мне скажы!
Як мне быць і што рабіць?

Улдыс *(адпіхвае яго)*

Згінь! Дзявочы паслугач!
Хустка больш табе да твару!

Дыдзіс

Бачыў! Бачыў ты яго!
Можаш ты сказаць паўслова,
Бо я скочу ў Даўгаву.

Анда

Лепш скачы сягоння ў ложак.
Хмель да раніцы праспіш.

Дыдзіс

Улдыс, Улдыс, што ты робіш?
З-за цябе напіўся я,
Апрытомнець не памог,
Так і згіну, непрытомны.

Улдыс

К чорту йдзі!

Анда

Не, да мяне!

Дыдзіс

Разам едзем.

Улдыс

Згінь з вачэй!

Дыдзіс цалуе Улдыса, і Анда яго забірае.

Улдыс *(рэзка)*

Барба, ўстань! Дарога кліча!
Косы Даўгавы ўчарнелі.

Барба *(паволі падымаецца)*

Як і ноч, чарнеюць хвалі,
Ды чарней мая дарога.

**Маці** *(да Улдыса)*

Цемра вас глыні, начніцы,
Раніцы не бачыць вам!

**Зана** *(ускрыквае)*

Улдыс, ой! Мой любы Улдыс!
І яе бярэш з сабой?

**Цыепа**

Бач, ты, Зана, давярала,
Ну, а Барба ашукала,
Жаніха ў цябе забрала.

**Барба**

Зана, я не ашукала,
Ты ж не знаеш, што раблю.
Пацалуй мяне!

**Зана**

Маўчы!

**Барба**

Я далёка адыходжу,
Цалаваць сястра не хоча,
Я другую пашукаю —
Што з лускою залатою.

**Улдыс** *(да Барбы зноў)*

Ехаць час! Папутны вецер.

Уваходзіць **Орта**.

**Орта**

Барбінь, Барбінь, едзеш ты,
І «бывай» мне не сказаўшы?

**Улдыс** *(да Орты)*

Што ж, сядай! Паедзем разам!

**Барба**

Орта — ты мая матуля,
Не забыла развітацца.

Абдымае яе.

Ты прымі мой пацалунак —
Ім пагрэбвала сястрычка.

О р т а

Барбінь, дзетачка, заранка,
Едзеш ты ў сваю сям'ю,
Ўтопіш ліха ў Даўгаве.
Маці шчасця, ў човен сядзь!
Шляхам добрым іх вядзі!

Б а р б а

Шляхам добрым іх вядзі,—
Зноў ты, Орта, развітайся:
Гатыньш на пяску ляжыць.

О р т а *(спяшаецца да Гатыня)*

Гора мне! Ён нежывы!

М а ц і *(таксама падыходзіць)*

Нежывы? Скажыце толькі?

Ц ы е п а *(падыходзіць)*

Проста ён прытомнасць страціў.
Часта б'юць яго прыпадкі.

Мацае Гатынеў лоб.

Яшчэ цёплы. Не бядуйце.

О р т а

Улдыс, што ты нарабіў?

У л д ы с

Я забраў сабе сваё,
Што жыццё мне доліла:
Шчокі ранняя ў росах ззяюць,
Вецер гладзіць Даўгаву.

Устань, мая Барбалыня,
Ды скачы ў мой човен!

Барба *(паволі падымаецца)*
Устаю, іду, іду.

Улдыс *(узрадавана)*
Ах, крывінка Даўгавінка!
Ветрык, вей, гані жвавей
Човен мой у Відземе!

Барба *(спыняецца ля чоўна)*
Я сваё бяру таксама,
Што жыццё мне доліла.

Раптам абдымае Улдыса.

Не аддам — маім застанься.

Яна скача ў човен і здымае з галавы вяночак, кідае ў Даўгаву.

Вось табе вяночак мой,
Вось сама. Ну, я пайшла!

Кідаецца з чоўна ў Даўгаву.

Усе *(перапалоханыя і разгубленыя, крычаць, перабіваючы адзін аднаго)*
— Авохці!
— Авохці!
— Ратуйце!
— Ратуйце!

Улдыс *(ускрыквае)*
Барбінь, ад мяне ўцякла?

Кідаецца следам у раку.

Усе *(адзін перад адным)*
— Не скачы!
— Бягом! Ратуйце!
— Барбы не відаць!

— А дзе ён?
— Хто б такое мог падумаць?
— Божухна, якія жахі!
— Уратуе! Уратуе!

Улдыс прыносіць тапеліцу і кладзе на беразе. Падыходзяць парабкі з запаленымі лучынкамі і Анда.

Орта
Дзетачка мая, сіротка,
Ты нашла сваю сямейку.

Анда
Дыдзіс спіць! Што тут такое?

Убачыла Барбу.

Любая сястра, сястрычка.

Зана *(да Барбы)*
Вось куды пайшла, сястрычка!

Маці *(схілілася над ёй)*
Ціхая ляжыш, дачушка,
Сэрца ад бяды зайшлося.
*(Да парабкаў.)* Падымайце, ў дом нясіце!

Улдыс *(які ўвесь час стаяў змрочны, адпіхвае людзей ад Барбы)*
Прэч пайшлі! Яна мая.

Апускаецца на калені.

Барба, Барбінь, палахліўка,
Ад мяне ўжо не ўцячэш ты!
Я цябе вазьму з сабою!

Ён падымае Барбу і нясе ў човен.

Ветрык, вей, гані жвавей
Човен на марскі прастор,
Белай хваляй вымыты!

Заслона.

**Райніс Ян.**
Ветрык, вей! Народная песня ў пяці актах. Мінск, «Беларусь», 1965.
176 с. Латі

На белорусском языке. Ян Райнис. Вей, ветерок! Издательство «Беларусь» Государственного комитета Совета Министров Белорусской ССР по печати. Редакция художественной литературы. Минск, 1965.

Рэдактар *В. Ніціфаровіч.* Мастак *Б. Забораў.* Мастацкі рэдактар *Н. Шыpокаў.* Тэхнічны рэдактар *В. Новікава.* Карэктары: *Г. Славінская* і *Л. Жукава.*

Здадзена ў набор 29/V 1965 г. Падп. да друку 5/VIII 1965 г. Тыраж 2000 экз. Фармат $70 \times 90^1/_{32}$. Фіз. друк. арк. 5,5. Ум. друк. арк. 6,43. Уч.-выд. арк. 5,04. Зак. 895. Цана 38 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў Беларускай ССР па друку. Мінск, Чырвоная, 23.

